«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (228), жнівень 2025 года

Літаратурная Беларусь

Выпуск № 8 (228) (жнівень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus



Змест





**ПАМЯЦЬ**

# Паэт і журналіст Уладзімір ШУРПА

Сяргей ЧЫГРЫН

Кожны раз, калі едзеш са Слоніма ў Гародню, з левага боку дарогі мільгане шыльдачка з назвай вёскі Саволеўка. І адразу прыпамінаецца цудоўны чалавек, паэт і журналіст Уладзімір Шурпа (1939—1998), які быў родам з гэтай вёскі.

У жыцці пашанцавала мне з ім спаткацца пару разоў, пагутарыць, паразважаць пра літаратуру. Гэтыя сустрэчы адбываліся ў Слоніме, калі ён, працуючы на Гарадзенскім абласным радыё, прыязджаў у горад над Шчарай у камандзіроўкі. Гэта ён прапанаваў мне даць свае вершы на абласное радыё, якія там гучалі, а таксама дасылаць інфармацыі на абласное радыё са Слонімшчыны. Што я і рабіў.

Нарадзіўся Уладзімір Шурпа 9 верасня 1939 года ў сялянскай сям'і. Скочыў сямігодку ў вёсцы Абухава Гродзенскага раёна, а потым філалагічны факультэт Гродзенскага педінстытута. Быў ён невысокага росту, любіў хадзіць з сумкай на левым плячы і, здаецца, часта курыў цыгарэты.

Кім толькі ў жыцці не давялося юнаку працаваць: і прыцэпшчыкам, і вагаўшчыком на камбайне, і трактарыстам, і электрыкам. А пасля інстытута — шмат гадоў аддаў педагогіцы, быў настаўнікам, дырэктарам вячэрняй школы, дырэктарам СШ у вёсцы Чарнелі Іўеўскага раёна, дырэктарам СШ у вёсцы Каменка Гродзенскага раёна. А з 1974 года ён працаваў журналістам на Гродзенскім радыё, і быў ён вельмі дасведчаным журналістам.

У вольны час Уладзімір Шурпа пісаў артыкулы, апавяданні і вершы. Многія з іх друкаваліся ў «Гродзенскай праўдзе», у калектыўных зборніках і альманахах. У 1996 годзе ён яшчэ паспеў выдаць свой адзіны зборнік паэзіі «Переразвон адліг».

З Уладзімірам Шурпам добра сябраваў лідскі паэт Уладзімір Васько. Калі я запытаў ва Уладзіміра Гаўрылавіча пра Шурпу, дык ён з радасцю расказаў і прыгадаў той час, калі яны вучыліся і сябравалі:



Аляксей КАРПЮК — у цэнтры — з маладымі паэтамі. Крайні справа ў другім радзе Уладзімір ШУРПА

— Калі я паступіў у Гарадзенскі педінстытут (1960), Уладзімір Шурпа ўжо вучыўся на трэцім курсе. Аднак мы з ім даволі хутка зблізіліся і пасябравалі. Разам хадзілі ў рэдакцыю газеты «Гродзенская праўда» на літаб'яднанні, выступалі на абласным радыё. Старэйшыя пісьменнікі Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк, калі ў нас крыху памацнелі паэтычныя крылы, бралі нас іншы раз з сабой выступаць у школах, тэхнікумах, воінскіх часцях, у раённых цэнтрах. Помніцца, напрыклад, паездкі ў Ваўкавыск, Свіслач. Акрамя рэдакцыі «Гродзенскай праўды» мы з Валодзем Шурпам хадзілі і ў рэдакцыю гродзенскай раённай газеты «Сельская новь», літаратурным аб'яднаннем у якой кіраваў паэт і даследчык, інспектар раённага аддзела адукацыі Апанас Цыхун. У гэтай газеце таксама друкавалі нашыя вершы. Уладзімір Шурпа быў здольным паэтам, гарэзным, гаваркім, разумным хлопцам. На жаль, яму пры жыцці ўдалося выдаць толькі адзін зборнік вершаў… У суботнія і нядзельныя вечары Валодзя звычайна браў у рукі гармонік, на якім добра іграў, і праходзіў па калідорах інтэрната з чацвёртага на першы паверхі, выводзячы мелодыі беларускай полькі ці вальса. Гэта быў сігнал для хлопцаў і дзяўчат збірацца на танцы. Яны ладзіліся на другім паверсе ў фае. Спачатку іграў Шурпа, пасля яго змянялі Коля Петрыкевіч ці Алесь Пятроўскі. Часам мы Валодзю запрашалі ў свой 45-ы пакой і казалі: «Ну, Вовік, ідзі адгавейся. Ты ўжо, відаць, стаміўся…». Налівалі яму поўную шклянку партвейну, і ён залпам асушваў яе да дна. Ажыўлялася гамонка, гучаў смех. А пасля мы ўсе разам зноў ішлі на танцы. Помніцца такі выпадак. Неяк Данута Бічэль запрасіла Апанаса Цыхуна, Валодзю Шурпу і мяне выступіць у школе рабочай моладзі, дзе яна пасля заканчэння педінстытута выкладала беларускую мову і літаратуру. Апанас Пятровіч дабіраўся туды сваім ходам, а я з Шурпам па дарозе заехалі на кватэру яго брата. Валодзя хацеў напрасаваць штаны. Дома нікога не было. Ён разагрэў прас і, не выключаючы яго, пачаў прасаваць. А час нас прыспешваў. І я Шурпу нават крыху падганяў. Неўзабаве ён хуценька надзеў яшчэ цёплыя штаны — і ў калідор, дзе я ўжо гатовы быў адчыніць дзверы. Шнура ж з разеткі ветраны паэт не выцягнуў. Мы добра даехалі да школы, няблага выступілі. Але, калі вярнуліся на кватэру яго брата, убачылі, што ледзь у кватэры не адбыўся пажар: прас прапаліў стол і ўпаў на падлогу. На падлозе ён таксама прапаліў немалую пляму. Валодзя вельмі перажываў: «Перападзе мне ад брата. Адбярэ ключ». Я стараўся яго суцешыць: «Дык стол жа стары. Чаго яго так ужо шкадаваць. Купіць новы»… На другі дзень мы заглянулі ў кабінет Апанаса Цыхуна і расказалі яму пра гэтае здарэнне. «Ну і шалапуты, — папракнуў нас Апанас Пятровіч, — маглі б нарабіць пажару…»

…Ужо 27 гадоў Уладзіміра Шурпы няма сярод нас. Засталіся толькі вершы паэта. Як гэты…

***

*Пад сонечнай ласкай прасторна для мар.*
*Далоў непагоду з аблокамі ніцымі!*
*Калі ж небасхіл не бывае без хмар,*
*Дык хай яны пояць зямлю навальніцамі.*

*На чыстым паветры настрою уздым.*
*Вітаю расінку і рупнасць грачыную.*
*Калі ж над планетай віхурыцца дым,*
*Няхай ён па-мірнаму пахне айчынаю.*

*Сяброўства і шчырасць адносін статут,*
*Каб людзі не ведалі здрады і пошасці.*
*Калі ж немагчыма пражыць без пакут,*
*Няхай яны будуць пакутамі творчасці.*

*Шчаслівым заўжды заставацца хачу.*
*Вядома, не песціцца ў вечнай парадн асці.*
*Калі ж заняволяцца слёзы ўвачч у,*
*Няхай яны льюцца ад радасці.*



Фота pxhere.com

# Насоўка Анатоля СЫСА



Людміла АНДЗІЛЕЎКА

У рэстаране былога Дома літаратара насоўка, падпісаная і падораная на памяць «паэтам нумар адзін», ды яшчэ зблытаная незнарок дата!..

Адкруціла жыццё назад...

Наваражыла гады жудаснай скрухі, зняверання і тугі...

Калі раптам каго пакінуць анёлы — чакай, яны там, дзе патрэбныя больш, чым табе...

### ПРА ПАЭТА
### (Страшны сон)

*Хто галаруч? Ка мне, да вогнішча!*
*Тут быў пажар... Во папялішча.*
*Дачакаемся дня...*
*Штосьці ў ім ёсць — гучыць імя.*
*Вунь, за тым сядзіць столікам.*
*Я гарэлкі не п'ю... Толькі з Толікам.*
*«Вочы чорныя, вочы страшныя...»*
*Ды не ўспомніць ён учарашняе.*
*Смелы будзьце з ім —*
*не пакрыўдзіцца.*
*Не паставіш ты —*
*неяк прыйдзецца,*
*Неяк знойдзецца, неяк купіцца...*
*Ля яго зашмат люду круціцца.*
*Не збяднее рука даруючы.*
*Дзень як дзень...*
*Вые воўк уначы...*
*Ах вы, сабутэльнікі-забулдыжнікі!*
*Ці вам куражыцца,*
*зайздроснікі-злоснікі?!*
*Што не напісана,*
*то ўжо не скажацца.*
*Не шукайце праўды за аблокамі.*
*Яна тут, пад бокам.*
*Не ўглядайцеся ў нябёсы,*
*калі сляпыя перад носам...*
*Рукі дадзены шкадаваць ці біць?*
*А душа? Згадай?*
*— Не будзі. Хай спіць...*
*— Дайце добрага кухталя пад бок!*
*— Ды яго ўжо выракся Бог...*
*...............................*
*Ад яго адхрысціўся Бог?!*
*СытыЯ, мажныЯ, моцныЯ, важныЯ,*
*ЦіхіЯ, сонныЯ, самаўлюбёныЯ,*
*ВёрткіЯ, згодныЯ, льсцівыЯ, гнуткіЯ,*
*Носам па ветры чуткіЯ-чуткіЯ...*
*ДзесяцітомныЯ, псеўданародныЯ,*
*ЗлыЯ, зайздросныЯ,*
*бронзазнамёныЯ!!!*
*ЗначныЯ, удзячныЯ, нізкапаклонныЯ...*
*Богам на слова не благаслаўлёныя.*
*...........................................*
*Пераблытаць хаўтуры з народзінамі...*
*Не ля кожнага храма юродзівы...*
*Што было — ёсць*
*і будзе наноў, наноў.*
*А не варты, Госпадзь,*
*мы тваіх сыноў...*
*Ці ж яму чашу тую выпіць да дна*
*За сябе, за мяне, за цябе, за нас...*

***1998 год***

...Я не паэт па сваёй сутнасці. Гэтыя радкі з'явіліся раптам ад падхопленага віруса, і чым больш я потым дазнавалася новага з біяграфіі Анатоля Сыса (верш прысвечаны яму), тым больш здзіўлялася прыродзе паэзіі... Адкуль гэта: пажар, воўк?!

У той час, калі прыйшлі радкі, я пра Анатоля Сыса яшчэ не знала амаль нічога, акрамя асабістага ўражання пасля кароткіх сустрэч. Кадр збіў мяне спанталыку, зламысны прыём рэжысуры («падмена козыраў») вядомага дакументальнага фільма пра адраджэнцаў (здаецца 1995 год) «Дзеці хлусні» Ю. Азаронка. Фільм, пасля якога я перастала паважаць свайго найлюбімейшага артыста У. Гасцюхіна, які згадзіўся дэкламаваць ілжывыя кадры. Ад бяссілля і нематы аж пяршыла ў горле, ды яшчэ:

— Што гэта за валацуга з бутэлькай поўзае па сцэне?! — абурылася я па-бабску, не даючы думкам апярэдзіць эмоцыі.

— Не спяшайся з высновамі... Гэта Толя Сыс, паэт. Лепш пачытай яго вершы. Я некалі вас пазнаёмлю... — суцішыў мяне сябар А., паэт з Віцебшчыны, які прывёў мяне некалі да разумення неабходнасці ведаць родную мову.

Хутка яго абяцанка здзейснілася. Адзін літаратар адзначаў юбілей. Аказаліся запрошанымі і мы з А. Гэта быў студзень 1998 года. У фае Дома літаратара да нас падышоў чалавек, з А. павітаўся як даўні знаёмы.

— Першы паэт Беларусі! — адрэкамендаваўся ён мне не жартоўным тонам.

— Вось гэта і ёсць Толя Сыс, як я табе абяцаў...

Гэты дзень я чакала, бо знайшла ўсё ж некалькі яго вершаў на старонках даступных мне ў глыбінцы літаратурных выданняў. Сумесь уражання ад кадра з уражаннем ад паэзіі нарадзіла балючы непакой, які авалодаў мною цалкам пасля жывой сустрэчы. У фае перада мной стаяў інтэлігентны чалавек. Ён быў неяк хваравіта чыстаплотным. «Гладка адпрасаваная кашуля, як нішто іншае, сваім здрадніцкім фонам выкрывала ў надломлена-ўчарнелым вобразе ракавую трагічнасць, якая ўжо бязлітасна намеціла ў рысах прыгожага твару дэгенератыўную тэндэнцыю». А яшчэ ён не быў гжэчным з жанчынамі, гэта адчула без відавочных фактаў, ён па-асобаму трымаўся, не так, як іншыя мужчыны. Быццам у яго жыцці адсутнічала наогул такая з'ява, як яе вялікасць жанчына. Зусім не маю на ўвазе інтымныя адносіны. Штосьці іншае, што, безумоўна, паспыяла яшчэ горшай абвостранасці яго трагічнага жыцця. Ці не цураўся ён наўмысна дзяліць людзей па палавой прыналежнасці. (Як уласціва мне самой.) А толькі на асобы! Тут не ўсё так проста... Як ён адчуў душу Алаізы!

Пакуль рыхтаваліся да вечарыны, на маіх вачах ад інтэлігентнага чалавека не засталося напаміну. Надта спрыяў факт, што многія з прыезджых гасцей, якім хутка трэ было прад'явіць сваю творчасць на жывыя вушы са сцэны, імкнуліся заманіць паэта ў таемны пакойчык, адкуль выходзіў той з кожным разам усё менш і менш падобным на сябе ранейшага. Яго звычка, седзячы ў першым радзе, на ўсю залу не хаваць уражання ад верша, палохала вершаскладальнікаў і графаманаў, нікому не хацелася пачуць, што кароль усё ж такі голы... Занепакоўся крыху і мой сябар, паэт з Віцебшчыны. (Дарэмна. На тую пару А. удавалася прычакаць музу, дык жа... нашая правінцыйная наўпэўненасць.)

— Трэба было б пачаставаць Толю... Выручыш мяне? — запытаўся А.

Я не стала пярэчыць, нават наконт «выручыш» — не мог ён сам пачаркавацца за сустрэчу... Яшчэ і з той прычыны, што мусіў выходзіць на сцэну. І я, да тых гадоў заўзяты і прынцыповы «непіток», згадзілася на гарэлку. Безумоўна, не з альтруістычных памкненняў, вельмі хацелася паглядзець зблізу на паэта.

За тыя паўгадзіны, што сядзелі ў рэстаране, Анатоль некалькі разоў змяніў свой настрой на палярную процілегласць. Ад блюзнерскага да змрочна-зацятага, ад шчыра-сяброўскага да высакамернага, нахабна-задзірлівы сачупаў глыбока скрушліваму, вінавата-даверлівы сум пераходзіў у выразную жорсткасць. Цяжка яму было ўтрымацца і фізічна ў адным стане, як кажуць, не мог знайсці сабе месца: падскокваў у запале гутаркі, кагосьці падзываў, падбягаў да афіцыянтак, гучна



Паэт Анатоль СЫС.
Фота Уладзіміра САПАГОВА, 1996 год

вітаўся з новымі захаджанцамі, падыходзіў да столікаў. (І гэта пры відавочным энергетычным спадзе: здавалася, яму не хапае жыццёвай сілы.) Мы размаўлялі пра сучасную паэзію, і адносна новамодных стыляў Анатоль паўтарыў: як выказваюцца мастакі — спачатку навучыся пісаць класічны партрэт, а потым «выя...вайся», хто як хоча... Не хацелася згаджацца з такой думкай, але не пярэчыла, маўчала. Выходзіць, калі перафразаваць: перш напішы як Гайдн, а пасля рабіся Шнітке, альбо: навучыся пісаць пад Пушкіна, а потым стань Бродскім? Не, не атрымаецца. Ужо класік Моцарт спрэс парушаў ранейшыя забароны і законы музыкі. Магчыма, Анатоль Сыс меў на ўвазе, што мастак (у вялікім сэнсе) павінен абапірацца на прыдбанае вякамі?.. І тут бываюць выключэнні.

Паказаў нам рукі... абмарожаныя, распухлыя, чырвоныя.

— Калядаваў па сваім Гарошкаве. П'яны заваліўся ў сумёт і заснуў... А кніжку сваю першую я пахерыў!

Я ўпершыню мусіла іначай глянуць на сябе, староннім вокам, — Анатоль між іншым кінуў:

— Вось А. — добры чалавек, а ты — не... (сказанае тычылася дабаўкі... Але!)

Да гэтага часу лічыла сябе зусім неблагім чалавекам, тут задумалася і знайшла яго словы справядлівымі, асабіста ў параўнанні з А.; той і сапраўды меў прыродную дабрыню ў адрозненне ад маёй, культываванай у сабе.

На развітанне Анатоль падаў А. самапіску:

— Пішы добрыя вершы.

А мне дастаў з нагруднай кішэні новую чыстую насоўку. (Зноў гэта чысціня. Пакладзі насоўку ў кішэню — і адразу загнуцца беражкі, пакамечыцца палатно, начэпіцца нейкіх варсінак, крупачак, а тут...) Напэўна, ён, як і я ў той момант, зусім забыўся: насоўкі не дораць! Гэтай наймацнейшай варажбіцкай прыладай перадаюць слёзы. Падпісаў на блакітным полі: Людцы, каб любіла Сыса. І подпіс, просты і кароткі. Потым дата. Трэба ж было такому нарабіцца! Ён (як мне гэта знаёма! Спытай, які цяпер год, месяц, дзень — задумаюся) зблытаў год! Яшчэ незнарок дадаў варажбы, ды якой!!! Любы вядзьмак пацвердзіць: адкруціць назад час — не жартачкі! Я трымала ў руках насоўку і радавалася... Пры выхадзе з рэстарана Анатоль, засаромеўшыся дапушчанай адкрытасці, вырашыў выправіць нечаканую слабасць, здзекліва вымавіў:

— А-а! Я тут наплёў абы-чаго, разыграў вас, а вы і паверылі...

— Ну гэта яшчэ хто каго разыграў... — кінула я, выручаючы сябра.

...Ёсць талент светлы, які даецца ў асалоду: радкі лёгка прыходзяць, льюцца крынічкай, звіняць званочкамі чытачу. Але жыццё двуадзінае... І хтосьці мусіць адчыняць браму, упускаць промень, бачыць праз цемру. Гэты дар такі балючы, што ніхто не мае права асудзіць яго носьбіта за «не так» пражытае жыццё... Бо ніхто не здольны і на кроплю адчуць боль аголеных нерваў, адпаведны такому дару.

Некалі вельмі прыгожыя, калі меркаваць па здымках, глыбокія сумныя вочы Анатоля Сыса займелі на той час ужо багата атрутнага жудаснага адцення. Яны не глядзелі... зазывалі ўгледзецца ў сусвет, дзе было яму так холадна, страшна, адзінока...

Калі хварэе народ, Радзіма, хтосьці павінен ахвяраваць шчаслівым жыццём, каб гэтую хваробу выявіць сабой. Блокам, Лермантавым хварэла Расія. Сысом — Беларусь. Мне тады ўбачыўся Анатоль Сыс, такі трагічны, прыніжаны, зганьбаваны горкім сімвалам беларускай паэзіі, літаратуры, ды і ўсёй беларускай культуры — не адглянцаваны, выхалашчаны, створаны «па заказе на паказ», а той, якой вякі векаваць.

Ён пры Доме літаратара быў, што жабрак пры царкве, якога і міласцінай багата адораць, з якога і жахнуцца, і пасмяюцца, і ў карак выштурхнуць, а потым святым прызнаюць...

Адраджэнцы сваёй рэзкасцю, непрымірэнчымі паводзінамі, можа, і адштурхнулі ад сябе людзей. Але як бы паводзіліся бацькі, на вачах якіх гвалтуюць іх дзіця, ці дзеці перад калесаванымі бацькамі? Што будзе нормай: жорстка рынуцца на абарону ці памяркоўна супрацоўнічаць з гвалтаўнікамі?

Баліць! Таму і кіпучыя эмоцыі. Адчуваць і думаць, бачыць і чуць заўсёды балюча.

Была яшчэ сустрэча. У 2002 годзе мяне прымалі ў Саюз пісьменнікаў. Зноў між афіцыйнымі асобамі сценюгаўся паэт. Мы доўга чакалі — не збіраўся кворум. Ужо тады адчуваўся нейкі разлад у «вярхах». Нарэшце дачакаліся. Мяне на «А» запрасілі першай. У зале па інерцыі працягвалася мітусня, перабіралі паперы, перасоўвалі крэслы... Тут жа, у цэнтры, Анатоль, як любімец (гэта чыста маё ўражанне!) Вольгі Іпатавай, бы малое шкадлівае дзіця, якому заўсёды не хапае ўвагі і цеплыні, круціўся ля яе, як ля мамкі. Я чакала пры ўваходзе, пакуль сцішыцца рух, і было прыемна адчуваць, што мáю прычыну знаходзіцца тут, дзе пануе паэт... Анатоль Сыс быў цвярозы, але вырабляўся і наўмысна прыцягваў увагу.

Хтосьці з кворума груба абсёк: «Ды, урэшце, абсядзься! Што пра нас людзі падумаюць!» Я апамяталася. Голас дакладна дзяліў на іх і нас. Былі і ёсць яны, хто вырашае: друкаваць — не друкаваць, прывячаць — не прывячаць, заўважаць — не заўважаць... І мы, хто гадамі мусіць чытаць у правінцыях прымусова спушчаны друкам кожны «чох і бздзік» іх творчасці, чакаючы, ці не ахвяруецца краёчак паперы літаратурнага выдання для нашых радкоў.

Сыс, выходзячы з залы, буркнуў: «Не дурнейшыя за вас людзі, самі ўсё разумеюць... Каму гэты фарс патрэбен?!» Ён адразу вярнуўся, але больш не выдзействаваў.

Пасля афіцыйнай часткі Анатоль раздаваў свежаспечаным пісьменнікам сваю новую кніжку. Я тады знаходзілася ў глыбокай дэпрэсіі — стаяла асобна воддаль, павярнуўшыся да акна, ён паглядзеў у мой бок і не падышоў... На той момант я і не зразумела, што нарабіла... Трэба было самой бегчы наўздагон! Толькі гады счакаўшы, чамусьці раптам усё ўспомніла. Як шкадавала!

А пазней успаміны вярнуліся так балюча, так горача! Шмат перадумала, дакарала сябе, што не ўберагла насоўку, упусціла зборнік вершаў...

І вось неўзабаве падарунак ад Сыса сам знайшоў мяне. Выпадкова трапіла ў маладзёжную кампанію, а там дазналіся пра мой дзень нараджэння і... дзяўчына працягвае зборнік вершаў Анатоля Сыса. Я аж войкнула: чаму Сыс?! Там у яе поўная сумка кніжак была — з выставы прыбегла, і корпалася ж доўга, выбіраючы, штосьці перакладала, прыкідвала...

Адкрываю дзе папала: «Гуляе з пацеркамі хлопчык...» — і слёзы зноў пабеглі па шчоках...

Ён прадказаў свой век: пяць няпоўных дзясяткаў. «Адну здзяўбе паджары певень...» — апошні дзясятак на палове абарвецца, — Анатоль памёр у год вогненнага пеўня...

# Белыя адзенні



Лявон ВАЛАСЮК

## Народны строй

Ад бабулі Ефрасінні (па бацьку) мне застаўся ў спадчыну беражліва захаваны ёю народны строй. Бабуля падарыла яго мне на пачатку 80-х гадоў пасля рэспубліканскай выставы беларускага народнага адзення, у якім была задзейнічана сямейная рэліквія. Тады ж, памятаецца, па лініі культуры прафсаюзаў бабулі прыслалі прэмію — дзесяць савецкіх рублёў. Не такія і малыя на той час грошы для старога чалавека. Бабуля была моцна ўсцешана, дзялілася навіною з родзічамі і знаёмымі.

Крыху пазней я ўдзельнічаў у рэспубліканскім конкурсе як мастак-дызайнер адзення, для чаго папрасіў сваю маці Веру Паўлаўну апрануць бабулін строй, каб зрабіць накіды. Калі праца была закончана, я «адпусціў» маці пераапрануцца.

Акурат тады, калі маці ўся ў белым выходзіла ў калідор, пачуўся бацькаў голас і расчыніліся дзверы насупраць. Хвёдар Іванавіч збіраўся нешта сказаць, падняў вочы і... знерухомеў, асёкся на паўслове. Так і стаяў, глядзеў, не міргаючы, на сваю палавіну. Нібыта не верыў, што красуня ў святочным строі — ягоная жонка.

— Што ты мне хацеў сказаць, Хвёдар? — спытала маці і, не дачакаўшыся адказу, перавяла вочы на ўзорыстую манішку кашулі, нібыта спецыяльна падагнаную да стану спадніцу з фартушком, усё зразумела і залівіста засмяялася.

## Напісаць партрэт

Ярына, статная светлавалосая дзяўчына, вучылася ў выпускным класе. Я, на два гады малодшы, неаднойчы кідаў на яе нясмелыя позіркі. Аднаго разу настаўніца матэматыкі — яна выкладала ва ўсіх старэйшых класах — адправіла мяне да Ярыны з кантрольнымі заданнямі. У нашай «матэматыцы» былі свае метадычныя падыходы да рэалізацыі прынцыпу пераемнасці ў навучанні: час ад часу малодшыя рабілі справаздачу перад старэйшымі.

Памятаю, як, пабойваючыся, зайшоў у класны пакой на трэцім паверсе, знайшоў Ярыну, перадаў заданні. Мы выйшлі ў калідор, мая «настаўніца» задавала пытанні, я — не дзіця і яшчэ не «кавалер», — сумеўшыся, неўпапад даваў адказы, крадком зіркаючы на прыгожыя белыя валасы і зусім дарослыя «пагоркі» Ярыны. Калі б я быў мастаком!..

Адразу пасля школы Ярына выйшла замуж за прыгожага хлопца — майго суседа, футбаліста і музыканта. На жаль, я не ўмеў іграць на гітары і гуляць у футбол...

Апошнім часам я часцяком бачу Ярыну на прыпынку: ездзім у цэнтр на адным аўтобусе. А зусім нядаўна нечакана сустрэў жанчыну ў вядомай краме-фотастудыі. На Ярыне было белае адзенне. Дагледжаныя светлыя валасы аздаблялі шыю і твар.

Прыгажосці няма межаў! Мне вельмі захацелася напісаць яе партрэт — для вечнасці...

## Хацелася не пабачыць

Ідучы да прыпынку, яшчэ здалёк пабачыў Валянціну — удаву сябра-нябожчыка, якога не стала летась.

Жанчына выйшла з універсама і, бачна было, збіралася накіравацца да прыпынку, але, заўважыўшы мяне, вярнулася назад у краму. Я зразумеў жаданне Валянціны не сустракацца са мной: не прайшло і года, як памёр муж, а яна ўжо апранулася ва ўсё святочнае, белае і сваім выглядам напамінала нявесту. Светлыя валасы, белая куртачка і звужаныя кароткія белыя джынсікі маладзілі кабету, якой было за шэсцьдзясят...

Я зрабіў выгляд, што не пабачыў яе — дапамаглі яшчэ і цёмныя акуляры, — павярнуўся ў іншы бок.

## Падарунак звыш...

Уначы зноў прысніў яе, незабыўную для мяне жанчыну. Раней працавалі на адным прадпрыемстве. Між намі засталося многа нявымаўленага. Сувязі не парываліся: лічымся добрымі сябрамі.

***

Раніцай сабраўся ехаць у цэнтр горада па творчых справах. Зайшоў у «сваю» маршрутку. Пакуль разлічваўся з кіроўцам, прыглядваў месца, дзе прысесці. Вольнае было толькі ззаду, побач з маладой дзяўчынай ля акна, якая падалася мне знаёмай. У белай куртцы, у белых джынсах... Яна выглядала шыкоўна і холадна, бы першы снег зімовым марозным ранкам... Я прысеў побач, распазнаючы знаёмыя рысы твару. Так, гэта была яна, жанчына, з якой мне хацелася б быць больш, чым сябрамі... Толькі маладая, з юнацтва.

Падплыла і агарнула хваля цяпла. Я пабачыў сваю сяброўку маладой, зусім юнай, такою, якой, вядома ж, ніколі не бачыў і не сустракаў.

## Вайна, або Чырвоны камбайн

Гэта было ў далёкім маленстве. Аднойчы сонечным летнім поўднем на скрыжаванні вясковых вуліц я ўбачыў чырвоны камбайн, які чамусьці падаўся мне ўвасабленнем ВАЙНЫ, пра якую толькі і было чуваць ад людзей у вёсцы. Яшчэ не так і многа часу прайшло з той пары, як мужчыны, у ліку іх быў і мой бацька, вярнуліся з вайны да сваіх хат.

У маім уяўленні вайна павінна была выглядаць менавіта такой: агромністаю, чырвонаю, жалезнаю (і ў той жа час жывою, якую немагчыма спыніць) пачвараю з агромністымі біўнямі-сківіцамі наперадзе, з неўтаймоўнымі круцёлкамі і ланцугамі па баках. Пачвара пыхкала смуродам, рыпела, тарахцела, бразгатала. Па велічыні гэтую агромністую чырвоную «вайну» можна было параўнаць хіба што з егіпецкаю пірамідаю, якую бачыў на малюнку ў падручніку старэйшага брата.

Той упершыню пабачаны чырвоны камбайн не адзін і не два разы паўставаў у памяці, іншы раз як бы і без асаблівай нагоды...

Старэйшы за мяне на чвэрць веку аднавясковец Леанід Барысавіч Цывілька аднойчы згадаў пра арганізацыю ў пасляваенны час мясцовага калгаса. Сабралі людзей пасярод вёскі. Пад разгалістыя вязы насупраць дома старога Качуры прынеслі самаробны стол, за які сеў, паклаўшы на стол пісталет, змрочны, з моднымі на той час кароценькімі вусікамі энкавэдыст. Па абодва бакі ад яго — актывісты і прадстаўнік раёна. Маці малога Лёні была непісьменная, то і ўзяла з сабою сына-школьніка. Калі яны падышлі да стала запісваца, рука хлопчыка міжволі пацягнулася да нагана (цікавая для хлапчука рэч!). Энкавэдыст моўчкі паклаў цяжкую далонь на пісталет: «Не чапай! Ён мне яшчэ спатрэбіцца! У нас шмат ворагаў!»

А ноччу мне прысніўся чырвоны камбайн з агромністым матавілам, што падмінала пад сябе залацістыя каласы...

Упершыню ж ён, чырвоны камбайн, патрывожыў мой сон у 1962 годзе, калі я быў стрыжаным пад нуль першакласнікам. Старэйшыя гаварылі пра вайну, пра амерыканцаў і Мікіту Хрушчова, запасаліся соллю і запалкамі. Страшны сон паўтарыўся ў 1968-м. Тымі днямі, пачуўшы над галавою гул цяжкіх самалётаў, людзі зноў загаварылі пра вайну і заспяшаліся да крамы. На гэты раз вайна гатова была палыхнуць ужо куды бліжэй. Дарэчы, яе дыханне зачапіла і нашу вёску: у Чэхаславакію быў накіраваны калгасны спецыяліст Леанід Цывілька. Пасля ён неаднойчы прыгадваў трывожныя пражскія ночы і дні.

Чырвоны камбайн неаднойчы прыходзіў у мае сны ў Венгрыі, у чужой краіне, на чужой зямлі, дзе давялося адбываць тэрміновую вайсковую службу. Бывалыя камандзіры неаднойчы расказвалі, як гінулі тут цэлыя каравулы. Віноўнікаў звычайна не знаходзілі.

Афганістан — савецкі В'етнам, як часам называлі Афганскую вайну заходнія журналісты — выбухнуў ужо пасля маёй дэмабілізацыі. І чырвоны камбайн зноў трывожыў сны нядаўняга вайскоўца, свядомасць якога на працягу працоўнага дня вярэдзіла мноства творчых задум. Камбайн памяняў колер, стаў брудна-рудым і ўяўляўся ад гэтага яшчэ больш жудасным.

Магу дакладна сказаць, калі я бачыў дзіцячы вобраз вайны ў апошні раз: ноччу з 23 на 24 лютага 2022 года. Напярэдадні днём у Цэнтральнай гарадской бібліятэцы горада Брэста мы, мясцовыя літаратары, праводзілі прэзентацыю зборніка вершаў паэта-франтавіка Мікалая Рыгоравіча Цялічкі «Цёплае святло», прымеркаваную да 100-гадовага юбілею творцы... А раніцай пачалася яшчэ адна ВАЙНА. Украінец Мікалай Цялічка быў маім школьным настаўнікам, ад канца вайны жыў у Брэсце, дзе і знайшоў спачын на гарнізонных могілках. Пасля таго, як пайшла з жыцця ягоная дружына, паэт прысвяціў ёй кранальную кнігу вершаў на роднай украінскай мове. Мікалай Іванавіч не дажыў да новай вайны ўсяго некалькі гадоў.

Ідзе час... Не тыя цяпер камбайны. Амаль бязгучныя. Як кажуць, увабралі ў сябе ўсе дасягненні тэхнічнага прагрэсу і ўжо не выклікаюць таго хвалявання, якое было ў раннія дзіцячыя гады. І ні наяве, ні ў пачварным сне я не хачу бачыць той, з дзяцінства, чырвоны камбайн, які падаўся мне чырвонаю пачвараю, што асела ў памяці «ВАЙНОЮ».



# Выгадная прапанова



Віктар ВАРАНЕЦ

Калі гадзіннік на сцяне прабіў восем разоў, Іосель Барухавіч Лапін з цяжкасцю падняўся з крэсла і рушыў да дзвярэй зачыняць сваю вінную лаўку. Але не паспеў ён дакрочыць і да сярэдзіны залы, як у памяшканне ўвайшоў элегантна апрануты барадаты мужчына гадоў трыццаці з медыцынскім саквояжам. Доўгія чорныя валасы з-пад капелюша даставалі яму ажно да плячэй.

— У нас ужо зачынена, — няветліва буркнуў Лапін.

Але такі тон зусім не збянтэжыў наведвальніка. Ён шырока ўсміхнуўся гаспадару, прыклаў руку да грудзей і нават крыху пакланіўся.

— Даруйце, шаноўны Іосель Барухавіч, за мой позні візіт, але Бог сведка — я спяшаўся, як мог.

Такія паводзіны незнаёмца крыху змякчылі Лапіна, ён павярнуўся, зайшоў за прылавак і ўжо больш лагодна запытаў:

— Што будзеце купляць?

Але госць не спяшаў з адказам. Ён уважліва агледзеў лаўку, асартымент напояў, што стаялі на паліцах, потым падышоў да дзвярэй і зачыніў іх на засаўку.

— Што Вы сабе дазваляеце? — абурана ўсклікнуў гаспадар лаўкі.

Незнаёмец тым часам вярнуўся да прылаўка, паставіў на яго саквояж, выцягнуў адтуль дзесяцірублёвую асігнацыю і паклаў перад Лапіным.

— Гэта, дарагі Іосель Барухавіч, плата за дзесяць хвілін згубленага вамі часу. Можа, прысядзем?

Гаспадар недаверліва ўзяў грошы, агледзеў іх на святле. Чырвонец быў сапраўдны. Тады ён паказаў рукой на фіранку, што вісела на сцяне залы. За фіранкай быў невялічкі пакойчык з двума столікамі і чатырма крэсламі.

— Тут часам дэгустуюць пакупнікі мае напоі. Праходзьце, калі ласка.

Калі яны селі па розныя бакі стала, госць зноў прыязна ўсміхнуўся і пачаў гаворку.

— Мяне завуць Пятроў Пётр Пятровіч. Я ў пэўным сэнсе камерсант, і прыйсці да Вас, Іосель Барухавіч, парэкамендавалі мае знаёмыя, паколькі вядома, што Вы чалавек сур'ёзны, разумны і досыць уплывовы ў Гародні.

Лапін моўчкі кіўнуў галавою.

— Дык вось, — працягваў Пятроў, — я хачу стаць вашым пастаўшчыкам алкагольных напояў.

— Але ў мяне ёсць пастаўшчыкі, — запярэчыў гаспадар.

— Я ведаю, — пагадзіўся госць. — Але, Іосель Барухавіч, вы ж умееце добра лічыць. Сабекошт вядра гарэлкі складае 45 капеек. Вам оптам прадаюць па чатыры рублі. Такім чынам цана павялічваецца амаль у дзесяць разоў. Вы ж у розніцу прадаяце па дванаццаць рублёў. Але пасля аплаты акцыза ды іншых падаткаў у вас застаецца прыбытку два рублі з вядра. На бутэльках і таго менш. Па такой жа схеме працуюць і вашыя канкурэнты. Я ўсё правільна адзначыў, шаноўны Іосель Барухавіч?

— І што далей? — ужо больш зацікаўлена запытаў Лапін.

— А далей я прапаную купляць гарэлку ў вытворцаў па 50 капеек за вядро. І мець, такім чынам, з вядра 5 рублёў 50 капеек. Гэта дазволіць Вам прадаваць гарэлку не па 60 капеек за бутэльку, а па 40, а ў вашым тракціры на Саборнай браць за 100 грам не па 10 капеек, як вашыя калегі, а па 5 капеек. Праўда, ваш прыбытак зменшыцца з 5 рублёў 50 капеек да 4 рублёў, але за кошт уздыму попыту, бо браць гарэлку будуць выключна ў пана Лапіна, вы будзеце прадаваць за дзень не пяць вёдзер, а не менш за дзесяць. Уяўляеце, якія гэта грошы?

Лапін недаверліва ўсміхнуўся:

— Казка прыгожая, але які дурань будзе мне прадаваць гарэлку па 50 капеек?

— Я, — сціпла адказаў Пятроў.

— Вы? — здзіўлена перапытаў Лапін. — А ў вас што… ёсць свой бровар?

— А гэта ўжо выключна мой клопат, шаноўны Іосель Барухавіч.

— Тады ў чым вашая выгода?

— З кожнага вядра вы, пан Лапін, будзеце мне аддаваць паўтара рублі. За арганізацыю справы.

— І што, мне застанецца толькі два пяцьдзясят? — ужо незадаволена канстатаваў гаспадар.

Пятроў толькі паківаў галавою:

— Яшчэ дваццаць хвілін назад вас задавальнялі і два рублі. А цяпер два пяцьдзясят ужо мала… Але калі вы, дарагі мой чалавек, адкрыеце яшчэ пару кабакоў, дык зможаце рэалізоўваць і па трыццаць вёдзер на дзень. І колькі гэта будзе з абароту?

— А вы зможаце паставіць і трыццаць вёдзер на дзень?

— Так, — пацвердзіў Пётр Пятровіч, — змагу. Дарэчы, я чуў, што ў вас тут у будынку вялізныя скляпенні, якія цягнуцца ажно да брыгіцкага кляштара… Вось там і будзем складзіраваць гарэлку. А пастаўляць яе буду па начах, каб не хваляваць грамадскасць.

— Пятроў — гэта не сапраўднае вашае прозвішча? — нечакана пацікавіўся Лапін.

— Так, — пагадзіўся Пётр Пятровіч, — гэта творчы псеўданім.

— А з паліцыяй клопату не будзе?

— У паліцыі таксама ёсць нашыя людзі. Але гэта, зноў жа, не ваш, Іосель Барухавіч, клопат. За ўсё адказваю я.

— Тады па руках, — згадзіўся нарэшце Лапін.

— Цудоўна, — узрадаваўся Пятроў. — А цяпер раскажыце мне, калі ласка, пра асноўных вытворцаў алкаголю ў горадзе.

Самымі вядомымі вытворцамі алкагольнай прадукцыі ў Гародні былі тры жанчыны. Вінакурны завод Хаі-Леі Фішалеўны Яфэ знаходзіўся на Занёманскім Фарштаце, мясціўся ў драўляным аднапавярховым будынку і выпускаў хлебную гарэлку. У тым жа раёне працаваў піваварны завод № 69 Рахілі Лейбаўны Андрэс, на якім выраблялася вельмі папулярнае ў горадзе чорнае піва. Хана Сролеўна Круспodзіна валодала медаварaным заводам, які спецыялізаваўся на алкагольных напоях з сырога мёду і патакі, паколькі на святы габрэям ужываць хлебную гарэлку было забаронена, а яны складалі палову насельніцтва горада.

І вось на кожнае з гэтых прадпрыемстваў у хуткім часе завіталі нейкія падазроныя людзі, якія захацелі купляць пэўную колькасць гатовай прадукцыі амаль па сабекошту. Жанчыны толькі пасмяяліся з гэтых нахабных прастакоў і з дапамогай работнікаў выкінулі іх на вуліцу. А ў ноч з пятніцы на суботу адначасова ў кожнай з гаспадынь здарыўся пажар на прампрыемстве. Дзякуй Богу, гарэлі толькі гаспадарчыя прыбудовы. Але ў панядзелак зноў з'явіліся гэтыя нахабныя людзі і папярэдзілі, што неўзабаве загарацца і самі заводы, а з блізкімі могуць адбыцца непрыемныя здарэнні. І барані Божа звяртацца ў паліцыю, бо гэта будзе як падпісаць сабе смяротны прысуд.



Фота tripadvisor.com

Першай не вытрымала Хая-Лея Фішалеўна, якая паставіла свой подпіс пад дамовай аб штотыднёвым продажы трыццаці вёдзер хлебнай гарэлкі па 45 капеек пану Пятрову Пятру Пятровічу. А калі незнаёмыя аднаго вечара спынілі на вуліцы сына Ханы Сролеўны і зламалі яму руку, пайшлі на саступкі і астатнія прадпрымальніцы.

Як і было дамоўлена, у нядзелю ўвечары да будынка «баторыеўкі», дзе месціўся вінны магазін Лапіна, пад'ехалі чатыры крытыя вазы. Нейкія цёмныя постаці хуценька пачалі закатваць бочкі з алкаголем у выкладзеныя пальчаткай (старажытнай цэглай ручной работы) стaрадаўнія скляпенні. За іх працай уважліва назіралі Іосель Барухавіч і Пётр Пятровіч. Калі бочкі занялі свае месца, рабочыя заклалі ўваход пальчаткай і пайшлі на выхад.

— Гэта наш запас, — патлумачыў Пятроў. — Перыядычна будзем яго папаўняць. А яшчэ два вазы зараз прывязуць тавар для магазіна і ў ваш тракцір на продаж. Справа, шаноўны Іосель Барухавіч, пайшла.

І ён радасна рассмяяўся. Лапін толькі пацісну́ў плячыма:

— Як гэта вы робіце? Не разумею.

— А вам і не трэба, — весела адказаў Пятроў. — Вашая справа — гандаль. Ну і грошы мне перыядычна адлічваць.

Старшы следчы сыскнога аддзялення Аляксандр Паўлавіч Казырын любіў пасля працы завітаць на гадзінку ў тракцір Давіда Пельцара, які месціўся на Саборнай вуліцы, выпіць келіх «белагалоўкі», прыкусіць вэнджаным вугром, перакінуцца словам з гаваркім гаспадаром. Тракцір быў папулярным у гараджан, і ўсе столікі амаль заўсёды запаўняліся. Але гэтым разам больш за палову залы пуставала. Аляксандра Паўлавіча правялі да яго любімага століка ў дальнім куце пад пальмай, а праз хвіліну сам гаспадар прынёс традыцыйны заказ.

— А што гэта ў вас сёння пуста? — пацікавіўся следчы.

— Дык ужо каторы дзень пуста, — сумна ўздыхнуў Давід. — Нават сталыя кліенты перабеглі да Лапіна.

— І чым гэты Лапін іх прыцягнуў?

— Коштамі на алкаголь. У яго ўсё значна таннейшае за наша.

— Дык і вы б скінулі цану, — параіў Казырын.

— Калі скінуць да Лапінскай, дык я ўвогуле нічога не зараблю.

— А як тады выжывае Лапін?

— А вось гэтага ніхто не ведае. Але калі так пойдзе далей, дык ва ўсёй Гародні толькі Лапін і будзе гандляваць… — Пельцар у адчаі махнуў рукой і пайшоў за стойку.

У панядзелак на працоўным пасяджэнні Казырын расказаў калегам пра размову з Пельцарам. І ўсе ўспомнілі пра серыю пажараў на вінакураных заводах у горадзе. Начальнік аддзялення Іван Арыстархавіч Горын зацікавіўся такім супадзеннем і накіраваў Казырына паразмаўляць з гаспадынямі заводаў на прадмет якіх-небудзь нечаканых канфліктаў, няпрошаных візіцёраў. Аляксандр Паўлавіч доўга прыкідваў, як лепей правесці гэтыя сустрэчы, і нарэшце запрасіў кабет у тракцір Пельцара ў сярэдзіне дня. Загадзя папярэджаны Давід накрыў стол у асобнай зале, дзе неўзабаве і размясціліся Хая-Лея Фішалеўна Яфэ, Рахіль Лейбаўна Андрэс, Хана Сролеўна Круспodзіна, Аляксандр Паўлавіч Казырын і сам гаспадар Давід Маісеевіч Пельцар.

— Спадарыні, — пачаў размову следчы, — як вы думаеце: калі ўсе тракціры горада прадаюць гарэлку па 10 капеек, а нехта адзін па 5, то гэта сведчыць аб чым?

— Хутчэй за ўсё, што апошні або набыў яе танней у вытворцы, або поўны дурань, — тут жа адказала Рахіль.

— Адкінем версію пра дурня, — працягваў Казырын. — І тады ўзнікае новае пытанне: што гэта за такі вытворца, што прадае гарэлку па сабекошце?

У адказ было маўчанне.

— У якім выпадку чалавек можа аддаць сваю маёмасць задарма і пры гэтым нікому нічога не казаць? — зноў запытаў следчы.

— Я думаю, — уступіў у размову Пельцар, — калі моцна запалохалі і нешта пагражае жыццю.

— І з гэтым нельга не пагадзіцца, — кіўнуў галавой Аляксандр Паўлавіч. — Але калі ўвесь час маўчаць, нахабнікі будуць яшчэ больш сваволіць і нарэшце прыбяруць усю справу да сваіх рук. Гэта магчыма, спадарыні?

І тут не вытрымала Яфэ.

— Кабеты, — звярнулася яна да таварышак, — праўду кажа пан следчы: яны нас так проста не пакінуць, пакуль не пусцяць па свеце з торбай. Вы як сабе хочаце, а я маўчаць не буду…

Калі начальнік сыска прачытаў паказанні жанчын, адразу ж аддаў загад на вобыск магазіна Лапіна.

— І дабіцеся, Аляксандр Паўлавіч, прызнання, дзе хаваецца гэты Пятроў. Лапін — дробны выканаўца. А тут вялікая рыба ходзіць. Вось хто нам патрэбны.

Але Лапін нічога сказаць не змог, паколькі ляжаў з перарэзаным горлам за сваім прылаўкам. Ні жонка Сара Барысаўна, ні сын Мендал Іёселевіч нікога не бачылі, нічога не ведалі пра справы мужа і бацькі. Вобыск таксама нічога не даў. Так, у тракціры знайшлі бочку гарэлкі з кляймом дома Яфэ, але што з таго? Спускаліся ў піўніцу пад магазінам. Квадратнае памяшканне, абкладзенае цэглай, было амаль пустым: пару скрынь з гарэлкай і півам, нейкія старыя рэчы, газоўка — вось і ўсе знаходкі.

— Хтосьці Пятрова папярэдзіў, — выказаў думку начальнік. — І мяркую, гэты хтосьці з нашых.

— Іван Арыстархавіч, я чуў, што пад магазінам Лапіна вялізныя падземныя хады, а мы ніводнага не знайшлі. Можа, ёсць сэнс пашукаць там схованку? — выказаў меркаванне Казырын.

— Праблема ў тым, паважаны Аляксандр Паўлавіч, што мы нават не ведаем, дзе шукаць. Ну не біць жа ўсе сцены. Даказаць віну Лапіна мы не можам, паколькі апроч здагадак нічога не маем. Дом пераходзіць ва ўладанне да сына Лапіна, і ён мае права падаць на нас у суд за знішчэнне маёмасці. Вось каб знайсці Пятрова… Хаця я ўпэўнены, што ён хутка заявіць пра сябе. Але па-сапраўднаму мяне хвалюе «пацук» у нашых шэрагах, якім Пятроў, упэўнены, яшчэ скарыстаецца.

А тым часам сам Пятроў сядзеў у суседнім кабінеце з шыльдай на дзвярах «Следчы Гапонік Станіслаў Вітольдавіч», паставіўшы ногі на саквояж з парыком, барадой і вусамі, і вельмі ўважліва чытаў даведку Міністэрства фінансаў аб стане спраў на тытунёвай фабрыцы Лейбы Шарашэўскага ў Гродне…

# Матулін крок



Васіль ДЭБІШ



***

*Даўно я не пісаў, бо час такі.*
*Каму патрэбныя мае радкі?*
*Калі няма любові, льецца кроў.*
*Вузее кола блізкіх і сяброў.*
*Падамся ў сад, дзе падае ранет*
*Так безнадзейна, ціха. Вяне квет.*
*Зязюлька плача. Жыта не расце.*
*А над магілкай мамы бэз цвіце.*

***

*Помнік. Мамін партрэт.*
*Я любуюся, мама, табою,*
*Як любуюцца птушкі вясною.*
*Прыйшоў паглядзець.*
*Ты пазнала мяне? Гладжу помнік*
*халоднай рукою.*
*Неба промнем ласкае*
*і хоча цябе абагрэць.*

*Моўчкі кветкі паклаў,*
*за цябе стаў маліцца.*
*Божа, сэрца ўратуй,*
*што з натугаю б'ецца ўнутры!*
*Разам з птушкамі ў небе*
*пяеш на світанні ты быццам...*
*Лёгка мне распазнаць*
*гэтай песні мелодыю-рытм.*

*Я расказваю маме пра ліха сваё*
*па сакрэце,*
*Што нікому яшчэ не казаў,*
*нам вядома дваім...*
*Хіба цемры яшчэ,*
*непрытульнаму ветру ў сусвеце*
*І задумлівай поўні*
*над Брэстам прыгожым маім.*

***

*Дзяцінства зноў успомнілася мне.*
*Плыве туман над рэчкай кучаравы.*
*Буслінае гняздзечка на гумне,*
*І ў белых росах лугавыя травы.*

*А ліпы пазіраюць на людзей*
*Так велічна, нібы пасланцы Бога.*
*Да Храма мяне мамачка вядзе,*
*Руку не адпускаючы малога.*

*Крыжы святлом напоўнілі абшар,*
*Званы — уцехай сэрца агарнулі.*
*І да Хрыста спяшаецца душа*
*З спакойнаю малітваю матулі.*

*Прыйшлі. Ступні Хрыста цалуеш ты.*
*Укленчыла — упала на падлогу.*
*А храм мне здаўся ціхім і пустым,*
*І мамінага там не ўбачыў Бога.*

*Ён БЫЎ — нібы падземная рака.*
*І верай стаў, маёй надзеяй, ХРАМАМ...*
*Хоць цэлы свет акажацца ў руках —*
*Нішто на свеце не заменіць МАМУ.*

***

*Не спіцца нешта гэтай ноччу зноў.*
*На засаўку зачыненыя дзверы.*
*Ледзь чутны стук. І хто гэта прыйшоў?*
*У дамавых даўно ўжо я не веру.*

*Устаў. За шыбай знічак прамяні.*
*«Сыночак, ты сягоння ці абедаў?*
*Я знаю, што ты ў хаце, адчыні*
*Не бойся, я прыйшла цябе праведаць».*

*Ключ скрыгатнуў. Пачуў матулін крок,*
*І голас прагучаў: «Як ты далёка.*
*Цябе люблю, мой родненькі сынок,*
*Мне страшна без цябе і адзінока.*

*Пад хусткай гладзь ссівелых валасоў,*
*А ў мілых зрэнках — стома і пяшчота.*
*Хварэла цяжка я, а ты не йшоў,*
*Заняты быў сям'ёю і работай».*

*Ўсміхнулася. За плечы абняла,*
*Заплакала. Руку маю цалуе.*
*«З табою я шчасліваю была.*
*Бывай сынок, я ўсё табе дарую».*

*І знікла раптам. Енчы ці маўчы —*
*Не дапаможаш, будзь ты хоць са сталі.*
*Пайшла. У незямную далячынь...*
*У цемры ночы нема зоркі ззялі.*

***

*Уславім нашых мам. У цяжкі час,*
*Як боль пякельны працінае цела,*
*Яны нябачна моляцца за нас,*
*Каб менш мы бедавалі і хварэлі.*

*Калі наступіць паласа няўдач,*
*Імкнемся гора пераняць слязамі,*
*За спінамі мы чуем горкі плач —*
*Яны нязменна плачуць разам з намі.*

*Калі нядолі як і не было,*
*Калі нас паважаюць і кахаюць,*
*На сцежцы ловім дрогкае святло —*
*Для нас яны дарогу асвятляюць.*

*На жаль, на свеце гэтым кожны госць.*
*Імгненнем век на свеце чалавечы.*
*Любіце мам, пакуль яны ў вас ёсць,*
*Не ціснуў каб цяжар віны на плечы.*

***

*Ад месяца бачу дарожку*
*На коўдры. Ні гуку ў хаце.*
*Мне пяць. Захварэў я трошку.*
*Прысела ля ложка маці.*

*Прынесла цукеркі з крамы.*
*Глядзіць, як я ем, і плача.*
*Я буду здаровым самым,*
*Каб слёзы яе не бачыць...*

*Мне сорак. Сям'я і дзеці.*
*Інсульт. Захварэла матуля.*
*І сонца па-іншаму свеціць,*
*І кветкі пялёсткі згарнулі,*

*І дом не здаецца храмам.*
*Малыя вакол не скачуць.*
*Абняў. Адыходзіць мама.*
*Сяжу я ля ложка, плачу.*

***

*Пахіліла нізка ружа голле*
*І чырвоным не палае кветам.*
*Мама, мама, ці туман у полі,*
*Ці твае няспраўджаныя леты.*

*На буслянцы птушкі гнёзды ладзяць —*
*Спеў не цешыць сэрца, не чаруе.*
*Мама, мама, ці вятрыска ў садзе,*
*Ці па долі голас твой сумуе.*

*На світанні на дарогу выйшаў:*
*На ўсім адбітак золкай ночы.*
*Мама, мама, мне падобны высі*
*На твае зажураныя вочы.*

*І чаму вясной мярцвее голле,*
*І куды падзелася крыніца,*
*Што паіла нас?.. Туман у полі.*
*І ад ветру мне не затуліцца.*

***

*Служылі мы пад Кушкаю,*
*Вярнуліся ў свой дом.*
*Накрыты стол пад грушаю,*
*І мама за сталом.*

*Жывыя, ах, крывіначкі,*
*Не згінулі, сынкі.*
*Падмецена сцяжыначка,*
*Бялеюць ручнікі.*

*Твар, рукі загарэлыя*
*І вэлюм сівізны.*
*Чаму ты пасівелая?*
*— Чакала вас з вайны.*

*— Ах, Божачка, як рада я...*
*(Мне пальцамі прыпол.)*
*А грушы звонка падаюць*
*На шчодры мамін стол.*

***

*Не свеціць Мілавіца. Цяжка мне.*
*Вятрыска дрэвы за акном загушкаў.*
*І купал неба робіцца цямней.*
*І знічкі — як параненыя птушкі.*

*Гляджу ў вакно, дзе быў калісьці парк.*
*Там лес густы і змеі неруш точаць.*
*Дзень хустачкай чырвонай выцер твар,*
*Стаміўся, уступіў дарогу ночы.*

*Змрок захінуўся ў тумановы плашч*
*І задыміў — клубы накрылі ганак.*
*Даўно не быў тут, мамачка, прабач,*
*Віноўны я, апраўдвацца не стану.*

*Два матылькі ляцяць у маё акно.*
*Ледзь чутна на гары шкрабуцца мышы.*
*І пазяхае ветрык за сцяной,*
*І туліцца да нашай хаты ціша...*

***

*Птахі кліч трывожны пасылаюць.*
*Каршака баяцца нездарма.*
*Я на хату з сумам пазіраю.*
*Дваццаць год, як мамы тут няма.*

*А без мамы ўсё асірацела.*
*Асакой зарос бацькоўскі стаў.*
*Захварэла мама, захварэла.*
*Упрасіў і да сябе забраў.*

*Еду ў вёску. Гора слепіць вочы.*
*Па шчаках маршчыны пралеглі.*
*Плача мама: прывязі, сыночак,*
*Мне рамонкаў, тых, што ў нас раслі.*

*Прывязі вады мне з той крыніцы,*
*Што звініць і ластаўкай пяе.*
*Мне яна заўжды начамі сніцца*
*І заснуць да ранку не дае.*

*Я прывёз... А мама памірае.*
*Адышла... На вечнасць пастарэў.*
*У трывозе ластаўкі лятаюць,*
*Хоць не восень — лета на дварэ.*

***

*Тваіх я не пачую песень.*
*Вачэй тваіх не ўбачу, мама.*
*Не лічыць дні зязюля ў лесе,*
*Дзе пахла хвояй і грыбамі.*

*Больш не адчую паху хлеба,*
*Што нам пякла — салодкі, спелы,*
*Бо ты ўжо на нябёсы, мама,*
*Самотнай птушкай адляцела.*

*Ляціць, ляціць над хатай бусел,*
*Крылом махае вінавата.*
*Казаў табе я, што вярнуся.*
*Стаю я ля бацькоўскай хаты...*

***

*Не асуджай, не здрадзіў табе, РОД.*
*Сувой гадоў у памяці трымаю.*
*Чырвонай стужкай залацісты ўсход*
*Над вёсачкаю пушча узнімае.*

*Вяртаюся ў прыстанак мітусні,*
*Ставы, палеткі кружацца ў аконцы.*
*Туман ружовы растварыўся, знік, —*
*І воблік мамы між аблок, ля сонца.*

***

*Шумяць сасонкі ў пушчы вінавата.*
*Спяшаюся да мамінай я хаты,*
*Што мне была ў дзяцінстве*
*светлым Храмам.*
*Шкада, што дзверы не адчыніць мама.*

*Ледзь чутна не прашэпча —*
*«Мой, сыночак!»*
*І не ўсміхнецца, не загляне ў вочы,*
*Не прынясе крывінкам з квасам кубкі,*
*Сівая наша мамачка-галубка.*

*Траву касіла, малаціла, прала.*
*Шчаслівай долі кужаль дзецям ткала.*
*А колькі песень спела над калыскай!*
*Я кланяюся маме нізка-нізка.*

***

*Стаю ля мамінай магілы.*
*Жыла тут. Боженьку маліла,*
*Каб не было вайны. Высока*
*Кружляе бусел, адзінокі.*
*Ляці! Хай Бог дасць волі, сілы...*
*Стаю ля мамінай магілы.*

***

*На гарышча залез. На вакне*
*Павута. Тут павук нелюдзімы*
*Прытаіўся, глядзіць на мяне,*
*Нібы д'ябал, крывымі вачыма.*

*Патэфон наш. Пласцінкі ляжаць.*
*І матрац. Калі дождж ці спякота,*
*Было соладка адпачываць*
*І — у марах загадкавых лётаць.*

*Некранутая ў дальнім кутку,*
*Дзе вянкі даспявалі цыбулі,*
*Рама жоўтая. Цягне руку*
*Там з партрэта да сонца бабуля.*

*Каля коміна ўслончык відзён,*
*Андаракам ад пылу прыкрыўся...*
*Прывід шчасцем расквечаных дзён*
*На гарышчы старым пасяліўся.*

***

*Як стане хісткім і марудным крок,*
*Як здушыць горла здрадніца-хвароба, —*
*Не плач, змагайся, родненькі сынок,*
*Ты пераможаш... я з табою побач!*

*Калі пачнецца справядлівы бой,*
*Твой зычны кліч людскі парыў аздобіць,*
*Барвовым стане неба над зямлёй, —*
*Не бойся смерці... я з табою побач.*

*Калі ў самоце праляцяць дні*
*І сэрца джаліць вастрыё жалобы,*
*Суцешся, узгадай у цішыні,*
*Бо не адзін ты: я з табою побач.*

# Дзень, якога не было

## Раздзелы з новага рамана-ўтопіі «Рэінкарнацыя»



Міхась ЗІЗЮК

### 1

Францішак сеў на сваё месца ў вагоне, адкінуўся на спінку і з палёгкаю ўздыхнуў — хуткасны цягнік на магнітнай падушцы вось-вось зрушыцца, панясецца да мяжы, разагнаўшыся да пяцісот кіламетраў у гадзіну. Ён дакрануўся пальцам да экрана на спінцы сядзення перад сабою — шкло пацямнела і ўключыўся тэлевізар. Юнак лёгкім рухам папраўвіў мініяцюрныя навушнікі. На канале ішлі навіны. Дзесьці ў Нямеччыне баевікі радыкальнай групоўкі «Свабодная Германія» ўчынілі чарговы тэракт у мячэці: каля трыццаці загінулых. У Францыі белая меншасць пратэстуе супраць вынікаў выбараў, дзе на пасаду прэзідэнта на другі тэрмін абраны пяцідзесяціпяцігадовы чарнаскуры Мгабпо Арнэ. На Мальдзіўскіх выспах праходзіць выратавальная аперацыя: выспы ўжо амаль цалкам паглынуў акіян, людзей перасяляюць у бяспечнае месца. Магутны тарнада цалкам знішчыў цэлы статысячны горад на захадзе Мексікі...

Цягнік спыніўся менш чым праз гадзіну на праверку. У гэтым месцы якраз праходзіла мяжа, што падзяліла Беларусь. Не так даўно перамовамі і передзелам тэрыторый скончылася дзесяцідзённая вайна на еўрапейскім кантыненце. У выніку розных пeратурбацый заходняя частка беларускай тэрыторыі адышла да мусульманскай Еўропы, а усходняя апынулася пад Кітаем. Кітайская частка Беларусі кантралявалася з Пекіна: на месцы, у Мінску, кіраваў урад, падабраны з калабарантаў, прэзідэнта краіны таксама прызначылі з Паднябеснай. Перад гэтым Кітай паспеў анексаваць расійскія землі ажно да Урала, а астатняя тэрыторыя Расіі, што фармальна лічылася незалежнай, таксама, як і Беларусь, з'яўлялася кітайскім пратэктаратам.

На гэтым баку мяжы працаваў ісламскі памежны патруль, ён рухаўся з хваста ў галаву цягніка. А недзе з другога боку ім насустрач ішлі кітайскія памежнікі. У вагон, у якім знаходзіўся юнак, увайшлі два афіцэры ў зялёных берэтах: падцягнутыя, барадатыя, апранутыя ў вайсковае адзенне колеру хакі, на баку ў похвах кожны з іх меў лазерны пісталет. Над галовамі патруля вісеў невялікі бясшумны дрон, які адсочваў паводзіны пасажыраў і быў гатовы выпусціць паралізуючую ін'екцыю ў парушальніка. Ён імгненна прымаў рашэнне, калі заўважаў хоць малейшую пагрозу для афіцэраў з боку пасажыраў. Патруль наблізіўся да Францішка. Адзін з памежнікаў паднёс да шыі юнака аналізатар. Прыбор імгненна зняў інфармацыю з чыпа, імплантаванага ў чалавека. Менавіта такім чынам цяпер паўсюль правяралі людзей, таму папяровыя дакументы практычна нідзе не патрабаваліся. Экран засвяціўся зялёным, што азначала дазвол на выезд.

Афіцэры хутка прасоўваліся па вагоне. У нейкі момант адзін з пасажыраў падскочыў і кінуўся на выхад. Але дрон спрацаваў бездакорна: небарака не паспеў зрабіць і некалькіх крокаў. Іголка з ін'екцыяй уваткнулася ў цела, парушальнік зваліўся на падлогу.

— Падобна, што наркакур'ер, — ціха сказаў па-ангельску Францішку сусед — андроід у выглядзе маладога мужчыны сярэдняга росту.

Гэтае месца раней пуставала. Мабыць, ён падсеў ужо тут, на мяжы: юнак так уважліва сачыў за экранам, што не заўважыў, калі з'явіўся сусед. Андроіды знешне нічым не адрозніваліся ад людзей, іх вылучала толькі адна дэталь: серыйны нумар з правага боку на шыі, там, дзе ў людзей знаходзіўся чып з інфармацыяй пра асобу.

— Магчыма, — адказаў яму юнак, — толькі чаго ён пабег?

— А вы не ведаеце? Не так даўно для памежнікаў выпусцілі нагрудныя сканеры, якія за імгненне, нібы рэнтген, скануюць усё цела наскрозь і выяўляюць любыя наркотыкі, нават прыхаваныя ў самім целе. Хутчэй за ўсё, ён яшчэ здалёк заўважыў сканер, таму зразумеў, што яго выкрыюць. Але адсюль не збяжыш. Прабачце, я не прадставіўся: WT 7438B.

— Францішак.

— Вельмі прыемна. Я еду да Масквы. А вы?

— А я ў Мінск.

— Што ж, спадарожнікамі мы будзем нядоўга. Я працую інжынерам у аўтамабільнай кампаніі, па справах адправілі ў Маскву. Дарэчы, ніколі там не быў.

— Я таксама, — адказаў юнак.

Пасажыраў у цягніку было няшмат, і праверка на мяжы заняла недзе каля паўгадзіны. Прыемны мужчынскі голас аб'явіў аб адпраўленні. Але праз лічаныя секунды дынамікі ўжо іншым мужчынскім голасам абвесцілі:

— Увага! Тэрарыстычная пагроза! Усім неадкладна пакінуць вагоны! Увага! Тэрарыстычная пагроза! Усім неадкладна пакінуць вагоны!

Пасажыры хутка, але без панікі і штурханіны, выйшлі на вуліцу. Францішак толькі паспеў заўважыць, што каля суседняга вагона штосьці адбываецца, і ў тое ж імгненне магутны выбух скалануў паветра. Пасажыры кінуліся на зямлю. Калі ўсё сціхла, Францішак узняў галаву. У суседнім вагоне выбухам выбіла шкло, на зямлі стагналі і крычалі параненыя, некаторыя з тых, хто ляжаў на зямлі, не падавалі прыкмет жыцця. Юнак азірнуўся і ўбачыў, што WT 7438B ляжыць без галавы. Андроід знаходзіўся на некалькі крокаў бліжэй да эпіцэнтра выбуху. Цяпер небараку адправяць на перапрацоўку.

Тэракты здараліся, таму экстранныя службы працавалі штатна. Не прайшло і паўгадзіны, як пашкоджаны вагон прыбралі, пасажыраў рассадзілі, і цягнік аднавіў рух. Цяпер на суседнім з Францішкам месцы сядзела стройная маладая кітаянка ў блакітных джынсах і лёгкім бэзавым швэдрыку. Яна прыязна ўсміхнулася юнаку і павіталася на ангельскай мове:

— Hello.

— Nixao, — адказаў ён па-кітайску, бо трохі ведаў адну з цяперашніх моў Беларусі.

— О, ты ведаеш кітайскую мову? Вельмі прыемна.

— Па праўдзе, не вельмі добра, таму можам размаўляць праз перакладчык, калі ты не ведаеш ангельскую.

У мабільных прыладах вытворцы ўсталёвалі перакладчыкі, які праз навушнікі імгненна перакладаў на зразумелую суразмоўцу мову, таму моўныя бар'еры практычна зніклі.

— Не, не, — адказала дзяўчына, — я добра ведаю ангельскую, можам размаўляць без перакладчыка. Ты еўрапеец?

— Не, беларус, жыву ў Мінску.

— Цікава, а я таксама жыву ў Мінску. Я — Ньяо, што азначае...

— Птушачка, гэта я таксама ведаю, — адказаў за яе юнак. — А я — Францішак. Мяне назвалі ў гонар Францішка Багушэвіча — нашага беларускага паэта, аднаго з класікаў нашай літаратуры. Вось і пазнаёміліся.



Фота pxhere.com

— А што яшчэ ты ведаеш па-кітайску? — усміхнулася Ньяо.

— Кітайская пакуль не з'яўляецца абавязковай, але ва ўніверсітэце мы вывучаем яе факультатыўна, таму сёе-тое ведаю. А насамрэч я вельмі люблю сваю родную, беларускую мову.

— Ага, я таксама трохі ведаю па-беларуску: калі ласка, дранік, асцярожна. Як табе мая беларуская?

— Няўрэнна, улічваючы, што ў вашай мове своеасаблівае прамаўленне гукаў, — засмяяўся Францішак. — Калі з табою пазаймацца, то ўпэўнены: будзеш добра размаўляць.

Францішак спадцішка разглядаў дзяўчыну. Чорная кароткая стрыжка, акуратны завостраны носік, цёмныя жвавыя вочы. А яшчэ ёй неверагодна пасаваў гэты бэзавы швэдрык. Сярод тых кітаянак, якіх хлапец ведаў і бачыў, прыгожых практычна не траплялася, а вось Ньяо відавочна вылучалася з іх усіх. Ён глядзеў на дзяўчыну і насалоджваўся яе натуральнай прыгажосцю без асабліва заўважнай касметыкі і касметычных працэдур на твары. Цяпер гэта было рэдкасцю, нямногія з прадстаўніц слабага полу дазвалялі сабе абысціся без умяшальніцтва пластычных хірургаў і тату.

Дзяўчына паведаміла, што прыехала з Кітая тры гады таму, працуе ў кампаніі свайго таты, які займаецца турыстычным бізнэсам.

За размоваю час у дарозе праляцеў хутка, неўзабаве цягнік скінуў хуткасць, бо паказаліся сталічныя гмахі. На пероне было нешматлюдна. Сям-там хутка перасоўваліся беспілотныя вакзальныя насільшчыкі з грузам, каля эскалатара і ўваходу ў падземны тунэль дзяжурылі андроіды-паліцэйскія з робасабакамі. Францішак і Ньяо выйшлі на прывакзальную плошчу, дзе гуртам стаялі маленькія беспілотныя таксоўкі, размаляваныя на аднаго ці двух пасажыраў.

— Ты куды цяпер? Цябе правесці? — юнак спыніўся каля электрамабіля, паставіў невялікую дарожную сумку на палімерную бруканку.

— Не, не варта. Мне блізка, я жыву тут, у цэнтры. А ты? — Ньяо ўважліва зірнула на юнака.

— А я ва Уруччы. Мы яшчэ сустрэнемся?

— Калі ты запросіш на спатканне, то я не адмоўлюся. Трэба ж вывучаць тваю беларускую мову, — хітравата прыжмурылася дзяўчына...

### 2

У кватэры Францішак прыняў душ, пераапрануўся, па-хатняму пасцілаў павячэраўшы тым, што мелася ў лядоўні, выкаціў на дарогу свой кампактны хуткасны электраскутар і паімчаў на лецішча да таты — менавіта там ён цяпер праводзіў большую частку свайго жыцця. Тата...

Маму Францішак амаль не памятаў, яна загінула, калі яму было толькі тры гады. Людзі тады масава паміралі ад новай невядомай хваробы, не мінула гэтая навала і Беларусь. Пасля Францішак чытаў, што ад яе, гэтай хваробы, у людзей на скуры з'яўляліся гнойныя раны, праз непрацяглы час падымалася тэмпература — і чалавек хутка згасаў. Лекаў не было, на ўсіх кантынентах трывала страшэнная паніка, запахла сусветным народным бунтам, тады загадкавая эпідэмія неяк хутка пайшла на спад, пакуль не знікла зусім, перад гэтым забраўшы сотні мільёнаў жыццяў. Вось тады і не стала мамы. Тата болей не ажаніўся, сам гадаваў малога, часта браў яго з сабою на працу — у інстытут штучнага інтэлекту. Гэта тата разам з дзедам прывіваў яму любоў да роднай мовы і літаратуры, даваў чытаць розныя кнігі, хоць колькасць тых, хто карыстаўся папяровымі кнігамі, катастрафічна ўпала, а бібліятэкі пераўтварыліся ў цэнтры культурнай камунікацыі, пазнаёміў Францішка з вершамі іхняга прашчура Сяргея Цераховіча. І гэта дзякуючы яму юнак вырас такім, якім ён ёсць цяпер: разумным, выхаваным, дапытлівым, улюбёным у родную зямлю чалавекам.

Калі Францішак вучыўся ў перадапошнім класе гімназіі, здарылася бяда. Ён добра памятае той снежна-белы, але чорны для яго зімовы дзень. Яму патэлефанавалі з незнаёмага нумара:

— Францішак Цераховіч? Платон Цераховіч ваш тата? Тады вам трэба неадкладна прыехаць у бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі.

Францішак паімчаў. Тата ў той дзень якраз ішоў да метро, калі цяжкавагавік занесла на заснежанай дарозе і тату прыціснула да сцяны. Дактары не спадзяваліся на лепшае, таму і патэлефанавалі Францішку. Але тата выжыў, вось толькі пасля здарэння назаўсёды застаўся ў інвалідным вазку.

Лецішча стаілася каля самага лесу — у добрую часіну там нават можна было сабраць трохі баравікоў. Улетку тата падоўгу гуляе тут, працуе на свежым паветры, бо навуку так і не пакінуў. Францішак паставіў скутар і азірнуўся: яму падалося, што хтосьці сочыць за ім. Але не, нікога, ні на суседнім лецішчы, ні на вуліцы. Тата чакаў яго.

— Прывітанне, сын. Як з'ездзіў?

— Усё добра, тата.

Яны абняліся.

— Што ж, пра справы потым падрабязней раскажаш, калі збяруцца ўсе. Гарбаткі з маіх зёлак з дзедавым мёдам?

— Так, не адмоўлюся.

Здымаючы красоўкі, Францішак назіраў, як тата пад'ехаў да стала, спрытна дастаў сподкі і кубкі, хутка паклаў зёлкі, заліў кіпнем. Худы, чарнявы, з вялікімі залысінамі, ён выглядаў крыху старэй сваіх сарака васьмі гадоў, тым не менш быў рухавы, энергічны і ва ўсім спраўляўся сам. Частку зёлак для гарбаты ён вырошчваў тут, на лецішчы, частку збіраў на ўзлеску, любіў частаваць зборам гасцей.

— Як дарога?

— Усё норм, тата. Толькі адзін тэракт на мяжы, а ў астатнім без прыгод. Як ты?

— Таксама добра. Ага, дзядуля прыязджаў, прывітанне перадаваў, пакінуў для цябе старую кнігу — недзе адшукаў. Вельмі каштоўны падарунак, я б сказаў, рарытэт.

Ён працягнуў Францішку кнігу. Уладзімір Караткевіч, «Каласы пад сярпом тваім». Юнак разгарнуў кнігу. Ого, ёсць дарчы подпіс аўтара, вось толькі невядома, каму яе падпісалі: большая частка тэксту расплылася агідною жоўтаю плямаю. А вось вокладка захавалася лепш. Францішак чытаў сёе-тое з Караткевіча, вельмі спадабаўся аўтар, трэба абавязкова прачытаць і гэты твор.

— Прасіў, каб ты прыехаў да яго, хоча пабачыцца.

— Зразумеў.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Дзень, якога не было

## Раздзелы з новага рамана-ўтопіі «Рэінкарнацыя»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6


Фота pxhere.com

Дзядуля Зміцер некалі жыў у Польшчы, калі яна была іншай, пасля вярнуўся ў Беларусь, купіў сабе старую хату ў трыццаці кіламетрах ад сталіцы, у месцы, якое звалі хутарам, пераехаў туды, у горад выбіраўся зрэдзь. На хутары ён заняўся пчалярствам, якому некалі навучыўся там, у Польшчы, і жыў з таго занятку. Да дзеда Зміцера прыязджалі нейкія экскурсіі, былі ў яго і пастаянныя пакупнікі мёду. Адзінага ўнука дзед любіў, нярэдка выходзіў на сувязь, расказваў пра сваю гаспадарку, распытваў Францішка пра яго справы. Аднойчы нават прызнаўся, што раней пісаў вершы, нават пачытаў іх унуку.

Першым прыехаў стары татаў сябар Алесь Кавальскі — лысы, паўнаваты мужчына няпэўнага ўзросту з ладнаю барадою. Сябе ён прадстаўляў так: патомны шляхціц і філосаф. З татам яны падоўгу размаўлялі і спрачаліся то пра братоў Луцкевічаў, то пра Браніслава Тарашкевіча, то пра ролю інтэлігенцыі ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці напрыканцы дваццатага стагоддзя.

Следам за Кавальскім увайшоў Яўген Бандароўскі — чалавек атлетычнага складу, але зусім мірнай прафесіі ўрача-стаматолага. Яго Францішак ведаў мала. Крыху пазней разам з'явіліся браты Гаўрыловічы, Ізяслаў і Брачыслаў. Яны былі блізнятамі; да боты адной работы, працавалі ў тым жа інстытуце, што і тата, адно былі маладзейшыя за яго гадоў на дзесяць. Самым апошнім, асцярожна азіраючыся, на парог ступіў Анатоль Кравец. Ён працаваў ў міністэрстве дзяржаўнага вяшчання і інфармацыі на нейкай значнай адміністратыўнай пасадзе. Дзед і тата Анатоля у свой час былі даволі вядомымі пісьменнікамі ў Беларусі, але цяперашнім часам усё беларускае не ў пашане, і з гэтай прычыны пра беларускую літаратуру ўзгадваюць мала. Кітай мякка і паступова, але настойліва, прасоўвае сваю культуру і сваю мову. Тых, хто спрабуе супрацiўляцца, звальняюць з дзяржаўнай службы.

Тата частаваў усіх сваёй гарбатай, сябры нязмушана размаўлялі на бытавыя тэмы, пераказвалі апошнія навіны, перакідваліся бяскрыўднымі жартамі.

— Што, сябры, усім гарбаты хапіла? — тата абвёў позіркам прысутных.

— Гарбатай галаву не абдурыш, — пажартаваў Бандароўскі.

— Не хвалюйся, для цябе захоўваецца мая асабістая бочка зуброўкі, — гэтак жа жартам адказаў тата. — А цяпер да справы. Таму, як звычайна, пераходзім у наша памяшканне.

Ён пад'ехаў на вазку да невялічкага экрана каля ўваходных дзвярэй і націснуў на чырвоную кнопку. Літаральна за імгненні ваконнае шкло пацямнела настолькі, што з вуліцы нельга было разгледзець, што адбываецца ў доме, на ўваходных дзвярах клацнулі два дадатковыя замкі. Тата націснуў яшчэ адну кнопку. Бакавая сцяна ад'ехала, паказаўся невялікі ліфт. Першым уніз спусціўся Францішак з Гаўрыловічамі. Памяшканне, якое знаходзілася пад лецішчам, уяўляла невялікі пакой са спецыяльным пакрыццём. Яго распрацаваў тата з Гаўрыловічамі. Сцены, столь і падлогу пакрылі рэчывам, якое не давала магчымасці праслухаць памяшканне звонку. Такая перасцярога была не залішняй, бо сучасная праслухоўваючая тэхніка мела шырокія магчымасці.

Тата спыніўся ў куце, агледзеўся і ціха сказаў:

— Што ж, мае дарагія сябры і аднадумцы, цяпер пагамонім пра нашыя справы. Сёння вельмі адказны дзень. Ад нашага рашэння залежыць — скажу гэта без перабольшвання — лёс нашай краіны.

Ён прымоўк, заўважна было, што тата хваліоецца.

— Спачатку паслухаем Францішка. Ён раскажа пра міжнародныя кантакты. Давай, сыне.

Францішак коратка расказаў пра прыхільнікаў і магчымую іх дапамогу.

Прыйшлі да высновы, што глеба пакуль не вельмі трывалая.

— Мо не спяшацца ды лепш падрыхтавацца? — задаў пытанне Кравец.

— Пачакай, Анатоль, не гарачыся. Мы даўно ўсё прадумалі, справімся, а адцягваць далей рызыкоўна: калі на нас выйдзе кітайская дзяржаўная служба бяспекі, то тады сапраўды позна будзе, — адказаў яму Кавальскі.

— Як у вас, усё гатова? — звярнуўся да братоў тата.

— Так, Платон Змітравіч, мы правялі некалькі тэстаў нашай сістэмы, усё павінна атрымацца. Галоўнае, каб Анатоль забяспечыў нам допуск, — зазначыў Брачыслаў Гаўрыловіч

— Ужо займаюся, — уздыхнуў Кравец.

— Яўген, што ў цябе? — зірнуў на Бандароўскага тата.

— Сапёр памыляецца толькі адзін раз, — рагатнуў доктар. — У мяне ўсё падрыхтавана, асечак не будзе...

— Добра. Тады яшчэ раз нагадваю: як выйдуць людзі, на дзяржаўным вяшчанні з'яўляецца запіс майго выступу, які запускаецца і на ўсе экраны ў гарадах. Нашы галоўныя патрабаванні да кітайскіх уладаў і да еўрапарламента:

1. Неадкладна распусціць урад марыянетак;

2. Выслаць прадстаўнікоў на перамовы;

3. Вяртанне заходняй часткі краіны і ўз'яданнне тэрыторый;

4. Краіна аб'яўляецца незалежнай і суверэннай.

Петыцыю з падрабязнымі патрабаваннямі накіроўваем і ў ААН, дзе нашу пазіцыю павінны патрымаць тыя людзі, з якімі папрацавалі нашы сябры. Але ж каб усё гэта спрацавала, патрэбна адна ўмова, я сказаў бы, ці не галоўная. Што скажаш, Алесь?

— У нас проста няма права на памылку, — цвёрда і рашуча адказаў Кавальскі. — Інакш загінем не толькі мы, але і краіна. Што ў мяне? Адно магу сказаць: у час «ікс» кантроль над пускавымі ядравымі ўстаноўкамі пяройдзе пад наш кантроль. Тады мы зможам выстаўляць ультыматум і гандляваца.

— Малайцы. Як так удалося? — спытаўся Бандароўскі.

— Ведаеш, дружа, патрыёты і проста самаахвярныя людзі ёсць і там, іх нямала, павер...

**3**

Палкоўнік Сцяпан Паўлавец сядзеў у асабістым кабінеце на трэцім паверсе ў будынку Дзяржаўнай службы бяспекі і задумліва барабаніў пальцамі па стале. Ён толькі што вярнуўся ад свайго непасрэднага начальніка генерала Ярміла. Генерал быў незадаволены тым, што справа аб падпольнай арганізацыі «За свабоду» за два месяцы практычна не зрушылася з месца, і накрычаў на Паўлаўца. Два месяцы таму Ярміла атрымаў паведамленне ад свайго агента, што ў Беларусі з'явілася падпольная арганізацыя, якая мае намер, ні многа, ні мала, здзейсніць дзяржаўны пераварот. Іх мэта — вызваленне Беларусі ад кітайскага ўплыву і аб'яднанне заходняй і ўсходняй частак у адну краіну. Колькасць удзельнікаў заставалася невядомай. Агент змог даведацца, што кіруе арганізацыяй, як ні дзіўна, не вайсковец, не палітык, а нейкі навуковец. Тады кіраўнік ДСБ патрабаваў ад Паўлаўца ўшчыльную заняцца гэтаю справаю і адшукаць злачынцаў у самыя кароткія тэрміны.

Лёгка гаварыць — адшукаць, калі аніякіх зачэпак, падказак ці намёкаў, дзе капаць. Паўлавец, у сваю чаргу, правёў нараду з падначаленымі, і яны акрэслілі кола навуковых установ, якія падлягалі першачарговай праверцы, крыху падкінуў у хвост аператыўнай службе і праслухоўцы, падняў саксупаў. Час ішоў, але ніхто нічога так і не выявіў. За ўсімі падазронымі навукоўцамі вялася праслухоўка, правяралася перапіска, усе кантакты. Агенты ледзь ні штодзень трымалі справаздачу, аператыўнікі круціліся каля вайсковых частак, сакрэтных аб'ектаў. Усё марна. Канешне, асабліва ніхто не выслужваўся, не стараўся сумленна вынюхваць і віжаваць. Кітайцаў недалюблівалі ўсе, бо адчувалі сябе людзьмі другога гатунку на сваёй жа зямлі. Але адкрыта ніхто не выказваў крамольных думак, не займаўся сабатажам: свая кашуля грэе. Паўлаўцу іншым разам здавалася, што генерал сам прыдумаў гэтую міфічную арганізацыю для таго, каб супрацоўнікі не спалі ў шапку, а займаліся справамі, каб трымаць іх у тонусе. Сапраўды, хто і, галоўнае, якім чынам можа спіхнуць Кітай, які падмяў пад сябе ледзь ці не палову еўразійскага кантынента? І калі такая арганізацыя існуе, то яна складаецца з нейкіх фанатыкаў-ідэалістаў, далёкіх ад рэалій жыцця. А яны не здольныя правесці больш-менш вартасную аперацыю. Ёсць ёсць такія, што чытаюць кнігі. Вось начытаюцца, збяруцца, уваб'юць сабе ў галаву «Беларусь павінна быць адзінай і незалежнай!», пачынаюць рабіць нейкія казачныя планы.

Стоп! На гэтай думцы ў Сцяпана перахапіла дыханне. Кнігі. Патрыёты. Воля. Змагары. А што, калі яны ўвесь гэты час капалі не ў тым накірунку, шукалі не ў тым месцы? Ён націснуў кнопку на рабочым стале. Гэта быў сігнал усім намеснікам і начальнікам структурных падраздзяленняў. Праз некалькі хвілін у кабінеце начальніка галоўнага аператыўнага ўпраўлення ДСБ сядзела восем чалавек.

— Калегі, сёння мой даклад заслухаў генерал Ярміла. Праца нашага ўпраўлення па распрацоўцы падпольнай тэрарыстычнай арганізацыі прызнана нездавальняючай. І прэміі за квартал мы пазбаўляемся. Як вам такая навіна? Думаю, не вельмі. Патрэбен вынік, і неадкладна. Таму мы павінны змяніць і стратэгію, і тактыку. У каго ёсць задумкі, прапановы?

Палкоўнік абвёў падначаленых строгім позіркам. Тыя ўпілшчылі галовы ў плечы, вочы апусцілі. Першым асмеліўся падаць голас начальнік аналітычнага аддзялення Сычоў. Ён падняўся: даўжэзны, вышэй за два метры, з паголенай галавой і вялікімі ўдумлівымі вачыма.

— Сцяпан Мікалаевіч, мы правялі некалькі аналітычных даследаванняў з прымяненнем штучнага інтэлекта. Высновы наступныя. Першая: структура не дзейнічае ў рэальнай плоскасці. Яны як бы абазначылі свае намеры, вызначыліся арганізацыйна, і на гэтым усё. Спячая ячэйка. Чакаюць, так бы мовіць, рэвалюцыйнай сітуацыі. Другая выснова: гэтыя людзі — маргіналы, іх літаральна некалькі чалавек, яны таксама пакуль не вядуць рэальных дзеянняў, а збіраюць сілы, вывучаюць і падбіраюць надзейных людзей. Калі б сітуацыя выглядала інакш і гэтая арганізацыя дзейнічала, яна хоць дзе-небудзь, а наслядзіла. Мы гэта дакладна не ўпусцілі б.

— Сядайце, Сычоў, — палкоўнік прайшоўся па кабінеце. — Магчыма, і так, але вы ўпусцілі важную дэталь. Некалі, вельмі даўно, яшчэ ў дзявятнаццатым стагоддзі, англійскі пісьменнік, філосаф і публіцыст Томас Карлейль сказаў: «Усялякую рэвалюцыю задумваюць рамантыкі, здзяйсняюць фанатыкі, а плёнам яе карыстаюцца адпетыя прайдзісветы». Чаму я ўзгадаў гэтыя словы, як вы думаеце?

Падначаленыя не адказалі, абдумваючы словы шэфа.

— Дык вось, чаму б нам не дапусціць, што мы маем справу з рамантыкамі і фанатыкамі? А гэта хто, у асноўным? Правільна: філосафы, тыя, хто шукае высокія ідэалы ў жыцці. Вось мы дзе шукалі, у якіх колах, падпалкоўнік Скочкін?

Скочкін падскочыў:

— Адпаведна інструкцый, Сцяпан Мікалаевіч. Усе фізікі-ядзершчыкі, хімікі, біёлагі, распрацоўшчыкі вайсковай зброі і тэхнікі пад нашым кантролем. Я ўжо не кажу пра вайскоўцаў-генералаў. Мы ведаем пра іх усё, ну, амаль усё.

— Вось-вось, а рамантыкаў мы ўпусцілі. А што, калі гняздо тэрарыстычнай арганізацыі менавіта там? Бо яны могуць выдатна спланаваць рэвалюцыю, лёгка адшукаць сабе паплечнікаў з тых, каго мы распрацоўвалі, незадаволеных уладай хапае, не мне вам расказваць, а пасля і арганізаваць выбух, як фігуральна, так і рэальна. Таму, пакуль сітуацыя кантралюемая, з сёняшнага дня мы павінны пераключыцца на працу ў гэтым накірунку. Праверыць усіх філосафаў, актывістаў, якія змагаюцца супраць кітайскага панавання, усе грамадскія суполкі. Праверыць усіх чытачоў бібліятэк: хто чытае, што чытае, таксама праскانаваць чытацкі сегмент у сеціве. Усю інфармацыю адфільтраваць, прааналізаваць праз штучны інтэлект — і высновы мне, як кажуць, на стол. Усіх падазроных пад асаблівы кантроль. Пра вынікі працы дакладваць штодзень. Усім зразумела? Тады за працу.

Афіцэры разышліся. Паўлавец адчуў неверагодную стому: працоўны тыдзень выдаўся напружаным. Пэўна, сёння трэба расслабіцца. Ён пераапрануўся, агледзеў кабінет. Здаецца, усе дакументы і планшэты схаваны, стол чысты. Ён уключыў ахоўную сістэму і пайшоў да ліфта...

# Сымонка-верхалаз

## Апавяданне-быль



Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

Напрыканцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя ў адной з беларускіх вёсак жыхары з непрыхаванай трывогай чакалі, калі будзе выкананы прысуд невялікай драўлянай царкве, вынесены мясцовым бальшавіцкім начальствам. Цэркаўку мусілі не толькі зачыніць, але і з падказкі нейкага пільнага апалагета новага ладу яшчэ і «абяззброіць»: скінуць з яе макаўкі крыж, які годна ўзвышаўся над ваколіцай ужо больш за сотню гадоў і, зразумела, моцна калоў вочы новым уладам. Ачоліць адказную аперацыю меўся сам валасны начальнік ГПУ, які ў адзін з верасnёўскіх дзён і наведаўся ў вёску.

Падзівіцца на нечуваную падзею хутка сабраўся цэлы натоўп... Аднак скінуць крыж з царквы аказалася зусім не простай справай. Для гэтага нехта павінен быў узлезці на макаўку, мокрую і слізкую пасля нядаўняга дажджу, і зачапіць крыж вяроўкай. Але ніхто з мясцовых актывістаў у схільнасці да самагубства не быў заўважаны, і справа застапарылася. Натоўп пачаў шумна абмяркоўваць пікантную сітуацыю. Гучалі розныя, нават самыя эксцэнтрычныя прапановы. Да прыкладу, нехта раіў папрасіць вайскоўцаў, якія стаялі непадалёк ад вёскі, пальнуць па царкве з гарматы. Але ад гэтага рашуча адмовіліся, бо, па-першае, непадалёку праходзіла мяжа з Польшчаю — і гарматны стрэл мог моцна сапсаваць міжнародныя стасункі, а па-другое, гэтак можна было няўзнак нарабіць шкоды і ў самой вёсцы.

Нагаманіўшыся ўволю, людзі ўрэшце ўціхаміраліся. Месцічы засяроджана стаялі ля царквы, дружна задраўшы галовы ўгору, усведамляючы, што задача стаіць амаль невырашальная. Мокрыя сцены царквы пабліскваlі на сонейку, нібы пасміхаліся з няўдалых крыжаздымальнікаў. Здавалася, што сам Гасподзь бароніць храм ад прыніжэння, а вяскоўцаў — ад вялікага граху. Пачасаўшы патыліцы, памяркоўныя беларусы ўжо хацелі было разыходзіцца, але тут нехта раптам успомніў, што ўлетку на макаўку царквы, на спрэчку, паспрахова ўзбіраўся адзін з мясцовых падлеткаў. Адчайнага «верхалаза» хутка знайшлі і падвялі да кіраўніка «аперацыі», таго самага строгага ГПУ-шнага начальніка. Але цяпер ён быў зусім не строгі, ён прыязна ўсміхнуўся падлетку, паляпаўшы па плячы, і пяшчотна спытаў, ці не змог бы ён паўтарыць свой ранейшы летні манеўр. Начальнік не стаў утойваць, што на гэты раз пасля дажджу задача стаіць куды больш складаная. Да таго ж ускараскацца трэба было з цяжкай вяроўкай на поясе, каб зачапіць яе за крыж.

Дванаццацігадовы Сымонка — так звалі падлетка — доўга вагаўся. Зразумела, яго цешыла, што важны начальнік не загадвае, а перад усёй вёскай просіць яго, зусім яшчэ недараслага, — і ўсё ж быццам нейкая сіла ў тую хвіліну перашкаджала даць згоду. Гэта потым, праз шмат гадоў, ужо ў самым канцы жыцця, згадваючы тыя падзеі, Сымон усвядоміў, што вагаўся ў тое імгненне паміж асцярогаю свайго добрага анёла-ахоўніка і спакусай зусім не боскай сілы, што падбівала яго на адзін з самых вялікіх, хоць і міжвольных, грахоў. Але ў той восеньскі сонечны дзень такія думкі хлапчуку ў галаву, вядома ж, прыйсці не маглі...

Скончылася размова ўрэшце тым, што падлетак, які ўпершыню ў сваім жыцці апынуўся ў цэнтры ўвагі не купкі аднагодкаў, а цэлай вёскі, усёткі згадзіўся. І сапраўды, на Сымонку ў той адказны момант ва ўсе вочы глядзела амаль уся вясковая грамада, у тым ліку і прыгожанькая суседская Анэлька, якая раней нават галаву ў ягоны бок не паварочвала... Не глядзела на Сымонку ў той момант толькі родная матуля ды яшчэ некалькі вяскоўцаў, якія катэгарычна адмовіліся ў той дзень ісці на «сатанінскае відовішча». Эх, каб ведала маці, што там адбудзецца, то, напэўна, на крылах паляцела б, каб спыніць свайго малодшанькага ад бяды... Але яна ў той дзень засталася-такі дома і толькі старанна малілася ў куце каля іконы, каб пашкадаваў Гасподзь роднае сяло...

А вось Сымонкаў бацька разам з натоўпам панура стаяў ля царквы. І хоць усім сэрцам быў супраць таго, каб сын улазіў у такую нядобрую справу, але запярэчыць начальству не наважыўся. Ведаў, чым могуць тыя пярэчанні скончыцца...

Да свайго чарговага «ўзыходжання» на макаўку Сымонка рыхтаваўся не дужа. Не было ў яго, зразумела, і ніякіх прыстасаванняў, і страхоўкі для будучага пад'ёму, апроч уласных рук і ног. Гэта цяпер верхалазы, каб залезці на які-небудзь занядбаны ўзгорак, прывозяць ледзь не паўтоны абсталявання і поўгода рыхтуюцца. А ў той дзень мясцовыя актывісты ў радасным узбуджэнні жваВенька прывязалі Сымонку на пояс вяроўку, якую трэба было прычапіць да крыжа, і ён па мокрых сценах паціху пачаў караскацца ўгару...

Кожны рух падлетка выклікаў гучныя ахі ў натоўпе — усе выдатна разумелі, што ён можа ў любую хвіліну зваліцца... Але спрытны, як уюн, Сымонка неўзабаве дабраўся да крыжа. Там ён асцярожна прывязаў да яго вяроўку, а потым таксама вельмі асцярожна спусціўся ўніз.

Важны начальнік ГПУ, як даросламу, пацiснуў яму руку і нават расчуўшыся на два словы: «Дзякуй, таварыш!» Болей за тое, ён раптам зняў з галавы фуражку і, адчапіўшы ад яе чырвоную зорку, працягнуў Сымонку.

У той момант хлапчук і насамрэч стаў ледзь не героем у вачах аднавяскоўцаў: як жа, сам грозны начальнік ГПУ, перад якім дрыжэла ўся акруга, з ім парукаўся і адшкадаваў зорку са сваёй фуражкі! Тады Сымонка з задавальненнем злавіў на сабе і захоплены погляд Анэлькі...

А аперацыя па ліквідацыі крыжа працягвалася... Далей усё было, як кажуць, справай тэхнікі. За прывязаную Сымонкам вяроўку дружна ўчапіліся дзясяткі чалавечых рук і з нейкай адчайнай заліхвацкасцю пацягнулі крыж долу. Праз колькі імгненняў ён з дзіўным, амаль чалавечым стогнам абрынуўся, ледзь не прыбіўшы таго самага ГПУ-шнага начальніка. Некалькі чалавек адзначылі падзенне крыжа крыкамі «Ура!», але большасць вяскоўцаў цяжка маўчала. Людзі быццам адчувалі нейкую амаль фатальную бездапаможнасць перад няўхільнай і страшнай сілай, якая невядома адкуль з'явілася на іхніх землях. Гэтая сіла без малых сумненняў пачала брутальна перайначваць адвечны лад вясковага жыцця, пасягаючы на тое, што раней было самым важным.

Скінуты крыж пагрузілі на вазок і некуды павезлі. І ён, як і крыж Еўфрасінні, як і дзясяткі тысячаў іншых беларускіх крыжоў, беззваротна знік у віхурах часу. У той дзень яшчэ адна беларуская вёска аказалася назаўсёды пазбаўленай апекі і абароны сваёй даўняй святыні...

Той-сёй з вяскоўцаў падумаў, што цяпер бальшавікі адчэпяцца... Але ўсё толькі пачыналася...

Галоўны герой — «верхалаз» Сымонка, які, вядома ж, мала разумеў тады, што нарабіў, паціху паплёўся разам з бацькам дадому. Калі маці даведалася пра ягоны «подзвіг», на нейкі час нават страціла прытомнасць ад невыноснага жаху за будучыню свайго малодшанькага...

***

Трэба сказаць, што ў той драматычны дзень ейнае сэрца не памылілася. Ох, сколькі нягодаў потым зведаў Сымон!.. Іх хапіла б, бадай, на некалькі чалавечых жыццяў. І каб на ягоным асабістым жыцці ўсё і скончылася!.. Не!.. Быццам нейкі цень уладна навіс і над лёсамі ўсіх Сымонавых нашчадкаў. Ні ў аднаго з яго дзяцей, а потым і ўнукаў жыццё ніяк не ладзілася...

Зрэшты, Сымон, па шыю загружаны паўсядзённай сялянскай працай, стараўся менш думаць і пра свае былыя грахі, і пра няўдалы лёс нашчадкаў, дзесьці ў глыбіні душы разумеючы, што ёсць рэчы, якія папраўіць немагчыма...

Зусім па іншаму да гэтага ставілася ягоная жонка Настуля, якая кожную нядзельку наведвалася ў царкву і малілася за сваіх няўдалых дзяцей і ўнукаў. Сам Сымон пасля таго даўняга выпадку з крыжам неяк інстынктыўна трымаўся ад царквы як мага далей. Жонцы хадзіць туды не перашкаджаў, а сам — ні нагой, колькі яна яго ні запрашала. Быццам бы той самы падлеткавы грэх не пускаў яго наблізіцца да храма!.. Да таго ж і час быў такі, калі ў жыцці большасці людзей Богу месца не было. Праўда, узамен актыўна праноўваліся іншыя багі, бажкі, адмысловыя рытуалы. Сымон і да іх ставіўся паблажліва, таму і жыў у нейкай сваёй асабістай веры, у якой галоўным быў ён сам.

***

Аднойчы восенню дзеці з унукамі ў чарговы раз наведаліся да Сымона на капанне бульбы. Ён хоць і быў ужо не ў той сіле, як раней, але, як заўсёды, узяў у гэтай бадай самай адказнай у годзе працы самы актыўны ўдзел. Але акурат у тыя дні моцна занепагодзіўся, і Сымон няўзнак моцна застудзіўся. Ён доўга ляжаў у лякарні, а калі яго выпісалі дахаты, так і не ачомаўся.

У тыя ж месяцы ён нечакана для самога сябе зразумеў, што ў адным яму ўсё ж пашанцавала — з жонкай. Ягоная Настуля, значна маладзейшая за яго, некалі пасля вайны, ратуючыся ад чарговага жахлівага галадамору, прыехала на даху вагона з Украіны ў Беларусь і з таго часу ўжо каля паўстотні гадоў была з ім побач. Усе гэтыя часы яна заставалася Сымону бясконца адданай і вернай жонкай ды памочніцай ва ўсіх ягоных справах. Доўгі час ён прымаў усё гэта як нейкую дадзенасць, як мы прымаем сонца, паветра, дождж... А цяпер зразумеў, што гэта і было ягонае галоўнае шчасце. За ўсе гады сумеснага жыцця ў яго не было нават дробнай падставы, каб хоць у нечым папракнуць сваю Настулю...



У апошнія дні жыцця ўспомніўся Сымону нечакана і вельмі празрыста — быццам учора было — абрынуты з царквы крыж... Успомніў да самых малых падрабязнасцей, — і ўрэшце неяк ёмка ўсвядоміў, што тады насамрэч адбылося. Зразумеў, што груз таго граху вісеў цяжкім каменем у яго на шыі...

А за дзень да смерці Сымон раптам паклікаў жонку і нейкім нязвыкла цёплым голасам сказаў: «Мусіць, жоначка, я сваё ўжо аджыў... Хутка застанешся адна...» І далей сказаў словы, якіх яна ад яго зусім не чакала: «Пакліч на заўтра бацюшку, хачу паспавядацца!»

Жонка ўжо не раз за час хваробы казала яму пра гэты абавязковы для кожнага хрысціяніна рытуал, але Сымон заўсёды з нейкай незразумелай злосцю абрываў яе: «Хопіць мне пра сваіх папоў, хай лепей самі сябе спавядаюць, праведнікі знайшліся!..»

І вось цяпер здзівіў...

Пад вечар таго ж дня, калі хворы паспавядаўся і, як належыць, атрымаў ад старэнькага бацюшкі мясцовай царквы прычасце, загадаў, каб вячэру яму падалі не ў ложак, як было апошнім часам, а накрылі стол. Здзіўленыя жонка і ўнучка дапамаглі Сымону апрануцца, і з цяжкасцю дакульгаў да стала, за які ўжо даўно не садзіўся. Потым стары нечакана папрасіў унучку прынесці з каморкі бутэльку настоенай на нейкіх адмысловых травах гарэлкі, што некалі прывёз у падарунак са сталіцы старэйшы сын. Сымон, пасля таго, як захварэў, да гарэлкі не дакранаўся ўвогуле, а тут раптам наліў сабе чарку, са смакам выпіў і гэтаксама са смакам павячэраў. Жонка з унучкай нават з радасцю падумалі, што дзед пайшоў на папраўку. Але назаўтра раніцай Сымон не прачнуўся...

***

На пахаванне да дзядзькі Сымона, як яго называлі ў вёсцы, сабралася нямала народу. Пасля завяршэння памінальнай службы бацюшка падышоў да старэйшага Сымонавага сына, які прыехаў са сталіцы і цяпер нерухома стаяў каля толькі што засыпанай бацькавай магілы.

«Не перажывайце, дзякуй Богу, ягоная душа пайшла да Бога падрыхтаваная і супакоеная, паспеў і пакаяцца, і прычасціцца... А пакаяцца яму было ў чым!..».

Сын зірнуў на святара, затым на пастаўлены на магіле бацькі крыж.

Што ж, падумалася яму ў той момант, — кола жыцця рана ці позна замыкаецца...

# Формула супрацiўлення

## Па старонках прозы Юркі ВІЦЬБІЧА

Алесь АКУЛІЧ

***Творчасць гэтага пісьменніка вярталася нібыта з «двайной» эміграцыі — і з замежжа геаграфічнага, і з айчынных спецсховаў. Так, у 30-х гадах будучы паязджанін і актыўны апанент камуністычнай ідэалогіі выдаў у Савецкай Беларусі два зборнікі прозы…***

### Штрыхі біяграфіі

У жыццяпісе Юркі Віцьбіча і дасюль застаецца шмат белых старонак. Згадаем найперш пра перыпетыі пакручастага пісьменніцкага лёсу, якія мелі непасрэдны ўплыў на фармаванне яго мастакоўскіх характару і прынцыпаў. Нарадзіўся Георгій Шчарбакоў (такія «пашпартныя» імя і прозвішча пісьменніка) 2 чэрвеня 1905 года ў мястэчку Вяліж былой Віцебскай губерні (на тэрыторыі сённяшняй Смаленскай вобласці) у сям'і святара (святары былі як у бацькавым родзе, так і ў матчыным). Вучыўся ў гімназіі, педтэхнікуме. Як запэўніваў сам, браў удзел у Вяліжскім антыбальшавіцкім паўстанні, — толькі, трэба прызнацца, несамавіта ўспрымаюцца сённяшнія спадзівы некаторых даследчыкаў наконт ваярства Віцьбіча: падчас згаданага паўстання (1918 год) гімназісту Юрку Шчарбакову было трынаццаць гадоў, і волатаўскім здароўем ён не вызначаўся…

Дзесяцігоддзе (пачынаючы з 1922-га) Ю. Віцьбіч адпрацаваў на маскоўскіх хімічных заводах, дзе атруціўся фасгенам і «зарабіў» сабе інваліднасць. У Маскве (пакуль як аўтар двух апавяданняў на рускай мове) быў залічаны ў сябры беларускай секцыі літаратурнага аб'яднання «Кузница».

Пра гісторыю друкавання свайго першага «беларускага» апавядання Ю. Віцьбіч успамінаў у лісце да Антона Адамовіча (ад 20 лістапада 1951 года): «Я пісаў сваё апавяданне «Як загінуў Ясь» у нядзельную літаратурную старонку газеты «Савецкая Беларусь». Праз колькі дзён у «Паштовай скрынцы» гэтага дадатку я прачытаў наступнае: «Вашае апавяданне (дарэчы, вельмі добра напісанае) друкавацца не будзе, бо слаба адбівае класавыя супярэчнасці на вёсцы». Як значна пазней даведаўся, гэты адказ належаў Міхасю Чароту».

Тады няўрымслівы пачатковец паслаў апавяданне ва «Узвышша». Як сцвярджаў сам, яно спадабалася У. Дубоўку і К. Чорнаму. Ад апошняга Ю. Віцьбіч атрымаў ліст з запрашэннем да супрацоўніцтва з «Узвышшам». З Масквы (дзе працаваў) Ю. Віцьбіч паслаў у Беларусь заяву на ўступленне ва «Узвышша» (а на той час гэта быў крок мужны — літаб'яднанне крытыкавалася афіцыйнымі ідэалагічнымі службамі, пачаліся арышты ўзвышаўцаў). Праз тыдзень


Юрка ВІЦЬБІЧ

пісьменнік атрымаў ліст ад Кандрата Крапівы, у якім паведамлялася аб адзінагалосным прыняцці яго ва «Узвышша».

У студзені 1933 года ён вярнуўся ў Беларусь і жыў у адным з калгасаў Віцебскай вобласці. А праз некалькі месяцаў дэбютаваў як крытык, выказваючыся пра «некультурнага» Хадыку, «хрызантэмную» Пфляўмбаўм, «поўнага нуля» Хведаровіча, «выдатнага версіфікатара» Чарота, «эрэкцыйнага правадыра» Маракова ды іншых.

У 1939 годзе быў прыняты ў Саюз савецкіх пісьменнікаў Беларусі, застаўся пад нямецкай акупацыяй. 23 кастрычніка 1943 года праводзіў з полацкай чыгуначнай станцыі ў сабор Св. Сафіі мошчы Святой Еўфрасінні Полацкай. «Мы ішлі за фурманкай і спявалі сціхіру: «Весяліся, манастыр Спасаў, і светла лікуй, зямля Полацкая», — узгадае ён у кнізе «Мы дойдзем» (выйшла па-руску пад псеўданімам Юрый Стукаліч).

Пры наступленні Савецкай арміі Ю. Віцьбіч падаўся ў эміграцыю. У Нямеччыне разам з Наталляй Арсенневай стварыў літаратурнае згуртаванне «Шыпшына». Хацеў нават аднавіць выданне часопіса «Узвышша» (склаў тры нумары). Затым пераехаў у ЗША, дзе супрацоўнічаў з Інстытутам па вывучэнні гісторыі і культуры СССР. У апошнія гады жыцця (памёр 4 студзеня 1975 года ў Саўт-Рыверы) пісаў па-руску, друкаваўся ў газеце «Новое русское слово», знаёмячы яе чытачоў з беларускай нацыянальнай ідэяй. Пасля смерці аўтара ў Нью-Ёрку выйшла яго кніга з далёкасяжнай назвай «Мы дойдем!»…




### Уздоўж дарог сацбудаўніцтва

Юрка Віцьбіч дэбютаваў творамі шмат у чым шаблоннымі, якія ілюстравалі будаўніцтва новай савецкай явы, аднак яго апавяданні, нарысы, аповесці, эсэ, у якіх вымалёўвалася мінулае Беларусі і закраналіся шматлікія гістарычныя праблемы да праецыраваліся-накладваліся на сучаснае быццё — якраз яны бачацца найбольш моцнымі, значнымі і паказальнымі ў празаічнай спадчыне Ю. Віцьбіча, якраз яны высвечваюць няпростыя шлях пісьменніцкай ідэйна-мастацкай эвалюцыі.

Апавяданні Ю. Віцьбіча 30-х гадоў мастацка-эстэтычную значнасць выяўляюць у паасобных стылёвых пошуках, псіхалагічнай вымалёўцы народных характараў, напрацоўках у паэтыцы і лексіцы твораў.

Як і большасць яго літаратурных аднагодкаў, Ю. Віцьбіч — трагічная асоба, прычым трагічнасць сваю пісьменнік на той час напоўніцу і не ўсведамляў. Хворы (заўважаліся псіхічныя адхіленні), пісаў і актыўна друкаваўся ў той час, калі сяброў-калег дзясяткамі пазнішчалі, таму і друкаваць асабліва не было каго — апавяданні Ю. Віцьбіча «ішлі» праз нумар, а то і ў кожным нумары часопіса «Узвышша». Пры гэтым даводзілася «падразаць» сябе для ідэйна-шаблоннага ложа, прыстасоўвацца. «…іду па лініі найбольшага супраціўлення, па лініі гільётыніравання сваіх ранейшых улюбёных вобразаў», — прызнаваўся ён Пятру Глебку (ліст ад 30 снежня 1934 года).

У 1932 годзе выйшаў першы зборнік апавяданняў Ю. Віцьбіча «Смерць Ірмы Лаймінг», які адкрывае апавяданне «Жаўнер Юрка Загар», упершыню надрукаванае ў 1929 годзе (наогул, зборнік выдадзены дыхтоўна — як збор твораў, з пазнакай месца і часу першапублікацыі). Сюжэт названага апавядання крыху меладраматычны. Беларускага хлопца Юрку забралі ў жаўнеры. Маці хворая, збітая «за недаборы па падатку», пасылае яму ліст. І хлопец, абураны, уцякае з польскага войска, «але дзве кулі дагналі яго». Гэта просценькая, эскізная мініяцюра, якая толькі-толькі засведчыла «ломку голаса» маладога празаіка. Але па ёй можна ўжо вызначыць і некаторыя асаблівасці голасу «пастаўленага». Найперш — дэталёвыя, апаэтызаваныя апісанні, блізкія нават да асобных лірычна-ўзнёслых адступленняў: «Бывала на вечарыны, калі ўдарыць Клаўдысь-музыка клёнавай ясачкай па цымбалах, і тыя то зазвіняць шклом тонкіх крыг паспалітага вясенняга рушэння, то загалосяць, як гаротная маці ў капліцы сумных могліц над труной забітага адзінца, то раптам засмяюцца крынічным смехам васільковай дзяўчынкі…» Здаецца, слоўныя карáлі (эпітэты, метафары) вось-вось «перарастуць» у верш. Навідавок і ўплыў колішняй «маладнякоўскай» «бурапеннасці», «барокавасці»: «хціва ружавіла кроў іржу зямлі» і пад.

Не новы для кантэкста беларускай прозы 30-х гадоў і «запеў» апавядання «Як загінуў Ясь»: танцы, «паводка гучных спеваў, цымбалаў, жалеяк». Млынарова дачка Марынка закахана ў Яся, плытагона-аснача, а багацей-бацька забараняе ёй сустрэчы з бедным «злыднем», які да ўсяго «яшчэ ў газетах друкуе», а «млын пад калгас захапіць хоча». Камсамолец жа Ясь збіраецца адмовіць Марынцы ў сустрэчах — толькі праз тое, што «рукі скруціць каханнем, шыю захлысне, бо бацьку-кулака бараніцьме»… І зусім не станоўчым успрымаецца камсамолец Ясь (яму ўсё ж падабалася Марынка, і ахвотна таньчыў з ёю). Урэшце, і памёр чалавек у Ясі тады, калі ён узамбаваўся камсамоліяй, а не ў сваю апошнюю зямную хвіліну (Яся забіў аднавяскoвец). І ці не гэта падкрэсліць сваёй назвай — «Як загінуў Ясь» — хацеў Ю. Віцьбіч, бо «Млынарова рука» найперш сведчыць супраць «кулака-злыбяды».

У пераломны час давялося жыць і хлопцу Янаку з Галіччыны (апавяданне «Янак Гай»). Каб зарабіць на лусту хлеба, мусіў ён «ламаць соль» у Польшчы, пад Лідаю перабег да «чырвоных». На фронце Янак змагаецца з «бандай бацькі Крумкача», трапляе ў палон, выжывае. Банда чыніць жахлівыя забойствы (здзекліва нявечаць і забіваюць дзяўчыну-чырвонаармейку «таварыша Дэбору». І зноў — як радок з верша — запамінаецца: «Парэзалі Галіччыну істужкамі акопаў, падперазалі калючым дротам…».

Цікава, каларытна, з увагай да псіхалагічных нюансаў выпісаны Ю. Віцьбічам вобраз старога рабочага «фарбоўнага завода» Петруся Хахла з сапраўдным прозвішчам Касаткевіч (апавяданне «Гад»), які з трыццаці васьмі гадоў працы «прагуляў толькі два» — «калі захліснула завод ціхменню могліц, а Пятрусь, моцна трымаючы стрэльбу, дзе ішоў, дзе бег, дзе поўз у крывавай пуцявіне ад шырокай пад Жыгулямі Волгі да далёкіх, адлюстраваных чыстым Байкалам Саянскіх гор». А далей — усё па знаёмым сацрэалізмаўскім сцэнары, на якім ляжыць пячатка ўплыву рускай савецкай прозы, яе эпігонства: на завод пракрадваецца вораг — памочнік майстра Кірылаў (ён жа ў былым Сакалоў «з ахранкі»), знаёмец Петруся. Гэты «гад», каб не быць выкрытым, хоча знішчыць нашага героя, псуе «манометры» і «тэрмометры» ды яшчэ ў партыю ўступіць хоча. Ну а выкрывае яго, канечне ж, дзед Пятрусь, які кідае піць гарэлку і сам піша заяву на ўступленне ў партыю…

Жорсткі сацыяльны канфлікт выпісаны ў апавяданні Ю. Віцьбіча «Крыж Габрэля Каўкі». Запамінаецца натуралістычная сцэна бунту сялян на чале з кавалём Каўкам, калі раз'юшаны натоўп паліць панскі палац, ломіць сямейны склеп і, як на шалёным шабашы, разрывае забальзамаванае цела пана. Каваля схапілі польскія жаўнеры і выразалі на ягонай спіне крыж.

Падобны сюжэт і ў апавяданні «Вятры заходнія»: хлопец Гальяш забівае пана, збягае ў пушчу, збірае там сабе падобных…

Завяршае зборнік аднайменнае з ім апавяданне — «Смерць Ірмы Лаймінг», і ўжо адным сваім «мадэрновым» эпіграфам уражвае: «2 х 2 = няма мінулага». Апавяданне, падаецца, і насамрэч стаіць «наводшыбе» і адрозніваецца ад астатніх, — і сваёй пафаснасцю, і драматычнай надрыўнасцю. Ірма Лаймінг, тэлефаністка і працаўнічка маскоўскай культкамісіі, — зусім «не спачувае сацыялістычнаму будаўніцтву», з цяжкасцю, прагнучы лепшага жыцця, імкнецца прыстасавацца да «новых умоў». Яе накіроўваюць у «камуну імя Туманава» — на родную Беларусь. Нельга не засяродзіцца на алегарычнасці, іншасказальнасці лепшых апавяданняў Ю. Віцьбіча: «увязненая думкамі», Ірма, бачачы будаўнікоў маскоўскага маста, прарочыць ледзь не кашчуннае на той час: «Рабы, што часова разбілі кайданы. Кроўныя родзічы будаўнікоў егіпецкіх пірамід і рымскіх акведукаў. Яны таксама будуюць, але і іх няскончаную працу хутка пачнуць заносіць пяскі». Шматпаказальны і сімвал таго маскоўскага маста — як дарогі ў «новае», «светлае». Падаецца, сімвалічны намёк прытоены і ў назве самой камуны — імя Туманава (чэкіст Туманаў змагаўся ў тых мясцінах з Булаком-Балаховічам, там і загінуў). Ды і, наогул, складваецца ўражанне, што дзеянне апавядання «Смерць Ірмы Лаймінг» вымалёўваецца нібыта ў тумане-памароцы.

Цікавая гісторыя прататыпаў Лаймінгаў (пра што ў апавяданні не згадваецца). Насамрэч, брат гераіні («у жыцці» Іры, а не Ірмы) быў удзельнікам Вяліжскага антыбальшавіцкага паўстання. Самі ж яны — дзеці ротмістра коннага палка, унукі палкоўніка, праўнукі генерала, нашчадкі тэўтонскіх рыцараў.

Лёс Ірмы трагічны. Жыве ў камуне, сваім былым маёнтку, і баіцца назваць сваё прозвішча, ходзіць па родным палацы і бачыць яшчэ не кранутыя партрэты родзічаў, якіх камунары завуць «швалллю». У фінале Ірма падпальвае свой палац і бяжыць да чыгуначнай станцыі. Трывожна, нічога добрага не вяшчаючы, чуцён «зычны рык» хуткага цягніка.

Такім чынам, у першых апавяданнях Ю. Віцьбіч, прыстасоўваючыся да пануючага метаду сацыялістычнага рэалізма, да так званай *гісторыка-рэвалюцыйнай* прозы, імкнуўся ўвекавечыць «гістарычны поступ» пабудовы новага жыцця, не абыходзячы і заідэалагізаваныя скажэнні, лакіроўку ці фальсіфікатарства недалёкага мінулага.

Заканчэнне на стар. 10 »

# Формула супрацiўлення

## Па старонках прозы Юркі ВІЦЬБІЧА

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 9

Другая кніга Ю. Віцьбіча — «Формула супраціўлення касцей» — выйшла ў Мінску ў 1937 годзе. Яна пачынаецца апавяданнем «Грыміць Перакрыж» (Перакрыж — доўгі парог на Заходняй Дзвіне, праз які гналі на Рыгу плыты), у якім псіхалагічна дасканала і дэталёва выпісаны вобраз аднаго з галоўных герояў — дзеда Дзяніса Катаржніка, «жывога касцяка», які «перабраў і голаду і гора». Дзяніс ідзе з рума да хаты праз могілкі: напачатку даведацца, хто з яго сям'і памёр. А дома мусіць рабіць новую труну.Ураднік забірае за даўгі каня (які з'еў палову саламянага даху). Дачка вымае Дзяніса з пятлі, і той прапівае ў карчме апошні кажух і нацельны крыж. А вясной зноў падаецца ў плытагоны. Развязка апавядання крыху «аскомістая»: нагадаўшы «падрадчыку» Якубу Бугаю мінулыя крыўды (удзел у гвалтаванні жонкі, віну ў смерці сына і ягонай пятнаццацігадовай катарзе), Дзяніс спіхвае зласліўца ў рэчку. І канцоўка атрымліваецца крыху «змазаная»: «І няма там уперадзе сілы, якая здолее затрымаць Дзяніса Катаржніка».

У многіх апавяданнях 30-х гадоў (як пра «нядаўняе» мінулае, так і пра сучаснасць) Ю. Віцьбіч, на жаль, не здолеў узвысіцца над зададзенасцю і вульгарызатарска-сацыялагічнымі ўстаноўкамі. Яго проза адзначанага перыяду нагадвае тыповы савецкі сацыяльна-класавы «эпас». Шаблонным стала апавяданне «Курт Лебен аналізуе азот» (аўстрыец «шутбундавец» Курт дапамагае здабываць азот, каб потым звязаць яго атамы з атамамі іншых элементаў і «нарадзіць сульфат-амоній для калгасных палёў і найлепшы параксімін, медыкаменты для савецкіх амбулаторый»). Газетным рэпартажам з «хімічнага, наскрозь рапахлага серай завода» можна лічыць апавяданне «Адоніс», якое апісвае пераход рабочага калектыву старога завода «Юлій Блюм» на завод «імя чырвонага змагара Кліма Гагары». «Завадское» і наступнае апавяданне «Эжэн Дэлякруа». Складваецца ўражанне, што Ю. Віцьбіч па-іншаму і не ўмеў на той час выказвацца, як «Дзядоўскі твар так трапна адбіў наяўнасць гаротнага ў мінулым, як трапна адбівае чуткі лакмус наяўнасць кіслот у рэактывах». Словам, калі б не аповед пра былую панскую мастацкую галерэю, мог бы атрымацца адмысловы трактат на хімічную тэму.

Ці не лепшае з усёй «малой» прозы Ю. Віцьбіча апавяданне «Формула супраціўлення касцей», якое і дало назву другому зборніку. Яно — дакументальна-дэтэктыўнае (напісана на падставе крымінальнай справы і следства па ёй). Сюжэтную аснову апавядання складаюць два лісты старога тэрапеўта Абрама Розэнштэйна да дачкі «Розачкі», якая і пераслала іх следчаму. Ярка ў псіхалагічным зрэзе вымаляваны праз свае допісы стары тэрапеўт. Нібыта ажывае час трыццатых, зямля, скутая эпідэміяй тыфу, людзі. І «амніставаны бандыт», былы белы афіцэр Грамбавецкі, каму — галоднаму бясхатніку — Розэнштэйн дапамог уладкавацца на працу «па ачышчэнні бальшавіцкага клазета». Грамбавецкі пашырае эпідэмію, забрудзіўшы рэчку брушна-тыфознымі бацыламі. У апавяданні (зноў жа не свабодным ад дагматычных установак) выкрываюцца і «паганец» протадыякан, ускосная знявага кідаецца і ў бок Булака-Балаховіча. Як і чакалася, пераможцамі сталі верныя «салдаты рэвалюцыі», якія і чыняць суд. Калі б не падобныя ідэалагічныя шаблоны, «Формула супраціўлення касцей» магла б стаць адметным апавяданнем 30-х гадоў: у ім ёсць і майстэрскія запамінальныя старонкі (выдатна, да прыкладу, зроблены лісты старога яўрэя), і ўдалыя абзацы, што сведчылі пра пэўную назіральнасць, увагу да дэталёвасці і мастацка-стылёвую культуру Ю. Віцьбіча: «Акуратныя дробныя літары, але яны часам адрываюцца ад лінеек і паволі паўзуць угору, каб потым таксама ж паволі скаціцца пад лінейку. На маю думку, гэта почырк вельмі стомленых людзей. Прынамсі, ён характэрны для дысертацый аспірантаў і запісак плытагонаў»...

### На гістарычных ростанях

Юрка Віцьбіч — аўтар дзвюх гістарычных аповесцяў, якія, хоць і апісвалі розныя эпохі Беларусі (Віцебска і прылеглых да яго земляў), маюць у жанрава-стылёвым плане шмат агульнага: найперш тое, што і першая — «Арцыбіскуп і смерд» — і другая — «Лшоно габоо Бійрушалайм» — сталі вынікам своеасаблівай эклектыкі рамантычных і сацрэалізмаўскіх тэндэнцый, што выяўлялася як на ўзроўні ідэйна-мастацкім, пафасным, так і на тэматычным, зместавым.

Найбольш вядомым творам Ю. Віцьбіча, дзе не толькі раскрываліся гістарычная тэматыка і вобразы мінуўшчыны, але і былі закрануты тыя знакавыя і паказальныя духоўныя і маральна-этычныя праблемы, якія паўплывалі на развіццё грамадскай думкі сучаснасці і ў многім прадвызначылі яе, стала аповесць «Арцыбіскуп і смерд», надрукаваная ў № 5 «Узвышша» за 1931 год. У ёй аўтар змог панарамна выпісаць — і «ажывіць» праз тры стагоддзі — старадаўні Віцебск 1622 года, — з яго брамамі, вуліцамі, храмамі, гарадскім замкам. У рамантычным флёры паўстае вобраз аднаго з галоўных герояў Янкі Змітрачонка з полацкай вёскі Кладзічы — нявольнага аснача, які гоніць па Дзвіне плыты да Віцебска, каб з тых бярвёнаў абнаўляць замкавыя сцены горада. Ён — няўрымсны шукальнік праўды, аднак кожны паварот ягонага лёсу пазначаны жорсткімі абразамі, крыўдамі, смерцю родных людзей. Прыгоннік арцыбіскупа Язафата




Кунцэвіча, з малалецтва сірата (бацьку расціснула на лесапавале, маці аслепла), Янка хадзіў з торбай па свеце. Пахаваў маці, а віленскі арцыбіскуп загадаў выкапаць ейнае цела і аддаць сабакам — бо тая была «паганае веры». Трагічна загінула і Янкава жонка, а арцыбіскупаў эканом выганяе з хаты. За адмову перайсці ва ўніяцкую веру — люта збіты бізунамі. Жорсткім катам выпісаны ў аповесці полацкі арцыбіскуп Язафат Кунцэвіч, які мэтай сваёй святарскай дзейнасці зрабіў вынішчэнне «з краіны Літоўскай паганых схізматыкаў» (г. зн. прыхільнікаў праваслаўнага веравызнання) і «перакінуць русінаў у палякаў».

На пачатку аповесці ў сюжэтна-часавую канву ўваходзяць сімвалічныя карціны арцыбіскупавых мрояў-бачанняў, якія дапамагаюць стварэнню агульнай апавядальнай настраёвасці — прадвызначаюць трагічна-драматычны фінал аповесці — і высвечваюць самае патаемнае ў душы «воя трону божага»: «Як вэлюм, лёгкая рось плыла па каморы, не датыкаючыся падлогі, і, спачатку невыразная, стала паступова з ціхай меладычнай гутаркай званоў вылучацца мяккім абрысам — пляц заходняга горада, катэдра...». Напачатку арцыбіскуп бачыць далёкі Кёльн і забойствы «за веру», затым — сябе каля Сцяны Плачу ў Іерусаліме...

Дзеяў арцыбіскупа не падтрымалі ні гарадскія радцы, ні самі гараджане. Абураны злачынствамі Язафата, натоўп урываецца на арцыбіскупскі дзядзінец. Разграюецца рабункі. Янка б'е сякерай па галаве збітага арцыбіскупа. Праз колькі дзён завадатараў бунта хапаюць жаўнеры. Янку выракаюць да «пакарання шыяй»...

Аповесць «Арцыбіскуп і смерд» засведчыла сталенне аўтара як празаіка гістарычнай скіраванасці, часткова выяўляла ягонае стылёвае і моўнае майстэрства. Пейзажы па сюжэце гістарычнага твора пакрыты ўзнёслым флёрам рамантызацыі: «І калі ўначы, губляючы зоркі, апранецца глыбокае неба краіны, шляхі, тады загалосяць гвалтоўна званіцы замкаў і глуха закархаюць смерцю мядзяныя грудзі гармат». Тэкст унітаваны мноствам гістарычных дэталяў, «каларытнымі» словамі: швыргануць, здырдзіўся, уцупіцца і пад.

Аналітычна-мастацкім шляхам Ю. Віцьбіч паказаў гістарычную няздольнасць пэўнай часткі беларускага сялянства да эвалюцыйных зменаў у жыцці, няздольнасць, выкліканую нізкім духоўным узроўнем працоўных мас, іх рабскім становішчам (апавяданне «Смерць Ірмы Лайнінг», аповесць «Арцыбіскуп і смерд»). І гэтая, хоць і няўцешная, праўда ўпісвалася Віцьбічам у агульнанацыянальную быццёвую канцэпцыю, прадвызначала яе істотныя заканамернасці.

Трагедыйна-драматычны сюжэт выпісаны Ю. Віцьбічам і ў аповесці «Лшоно габоо Бійрушалайм», апублікаванай у часопісе «Полымя рэвалюцыі» (1933) (Лшоно габоо Бійрушалайм — старадаўні габрэйскі малітоўна-святочны вокліч, які выяўляў спадзяванні звароту на Бацькаўшчыну).

Гісторыя, абмаляваная ў ёй, ужо не сягае ў далёкую даўніну. Аўтар і сам быў сведкам некаторых апісаных падзеяў, яшчэ жылі на момант публікацыі і яе магчымыя героі-прататыпы. У віцебскі гарадок Грайронак (пад гэтай назвай выступае родны Віцьбічу Вяліж), у якім жылі большасцю габрэі, урываюцца войны: сусветная, грамадзянская. Разграюцца антыбальшавіцкія выступленні. ЧК намагаецца знішчыць «банду Нілёнка». У лесе падчас бойкі і сустракаюцца галоўны герой аповесці Стась Галькевіч са сваім бацькам — у варожых лагерах. Кульмінацыя аповесці: Стась над целам забітага бацькі трымае апырсканую крывёю матчыну фотакартку.

У фармальна-стылёвым плане аповесць «Лшоно габоо Бійрушалайм» не прыўнесла нічога новага ў «творчую лабараторыю» аўтара. Пабудаваная большасцю на тыповых для тагачаснай савецкай прозы тэмах, топах (пазнаванне і інш.), а таксама іх «счапленнях», аповесць Ю. Віцьбіча стала яшчэ адным рамантызаваным узорам «гісторыка-рэвалюцыйнай» прозы сацрэалізму. Толькі такая «гістарычная» проза рэгламентавалася і дазвалялася ў савецкай літаратуры 30-х гадоў, бо апаратыўна служыла ўстаноўкам і нарматывам тагачаснай дзяржаўна-палітычнай ідэалогіі: стварыць мастацкі летапіс-ілюстрацыю ўсталявання бальшавіцкай улады і барацьбы за яе ўмацаванне. Аднак у сваім творы Ю. Віцьбіч здолеў пазначыць і некаторыя «недагматычныя» праблемы. Галоўная з іх — амаральнасць і абездухоўліванне падбальшавіцкага грамадства, што асабліва відавочным было выхаванаму ў рэлігійнай сямейнай атмасферы аўтару. У аповесці «Лшоно габоо Бійрушалайм» апісваецца эпізод, калі — каб пабудаваць новую фабрыку — людзі разбіраюць крушні старадаўняга замка, муры кляштару, касцёл, сінагогу. Перад самазабойствам Стась Галькевіч, пачуваючы сябе «пылам мінулага», у сваім лісце запісвае апошняе прызнанне: «Калі б у мяне цяпер была граната, я б швыргануў яе ў тых, што разбіраюць касцёл Марыі Магдалены...».

У аповесці давалася дэталёвае асэнсаванне беларускай ментальнасці, месца беларусаў у агульнай гісторыі народаў. Ярка і каларытна вымаляваны Ю. Віцьбічам быт мястэчковых габрэяў, іх клопаты, заняткі, турботы. Дыялогі перасыпаны старагабрэйскай лексікай і цэлымі выслоўямі (амаль на кожнай старонцы — па дзве-тры зноскі-тлумачэнні). Да такой мястэчковай «архаікі» пасаваў, як выказваліся некаторыя даследчыкі, і Віцьбічаў «завілаваты» стыль аповеду.

### І радок магілы

Творчасць гэтага пісьменніка вярнулася нібыта з «двайной» эміграцыі... Апартуніст, нацыяналіст, сіяніст і антысеміт, прыстасаванец, калабарант, прапагандыст... Кім толькі не называлі яго пры жыцці. Аднак у гісторыі ён застанецца пісьменнікам, на магіле якога навечна ўпісаны радок з верша Уладзімера Дубоўкі: «О Беларусь, мая шыпшына...»




Магіла пісьменніка

# СТЭНДАЛЬ: драгун — інтэндант — класік


Андрэй ЦУНСКІ

З энцыклапедычных артыкулаў пра Мары-Анры Бэйля (так звалі Стэндаля ў «прыватным» жыцці) можна даведацца, што ён захапляўся ў дзяцінстве рэвалюцыяй, а ў юнацтве — Напалеонам…

Што ж так прываблівала ў Напалеоне таленавітых і адукаваных? Прычым не толькі маладых? А тое, што ён сам быў адукаваны, і не проста прагны да ведаў, гэта была незвычайная сквапнасць да ведаў! Брат Напалеона Жозэф Банапарт пісаў, што не было больш «палкага прыхільніка Русо, прыхільніка Карнэля, Расіна і Вальтэра» і «перакладчыка на французскую мову твораў Плутарха, Платона, Цыцэрона, Карнэлія Непата, Лівія і Тацыта». Калі з Банапартам сустракаўся вядомы гісторык — малады генерал мог папросту прысароміць яго, паколькі ведаў гісторыю лепш іншага прафесара, быў таленавітым і дасведчаным матэматыкам, астраномам, ведаў фізіку і хімію, юрыспрудэнцыю…

Не, не становяцца ў гісторыі вялікімі проста так — пасрэднасць усяго толькі займае чужое месца. Іншая справа — што з узростам губляецца былая вастрыня розуму, гінуць задумы з размахам, жаданні драбнеюць, страсці апускаюцца да пошласці. А ў маладыя гады Банапарта, які рана страціў маці, Стэндаль, сірата, які марыў вырвацца з-пад тыранічнай апекі бацькі і цёткі, не проста ім захапляўся. Ён пайшоў на заклік свайго куміра на ваенную службу. Гэта значыць — паехаў паступаць у Політэхнічную школу (хоць вывучаў да гэтага ў асноўным гісторыю мастацтваў, але, верагодна, бацька пастараўся накіраваць сына да чагосьці больш рэальнага), і стаў драгунам. Радня паставілася з разуменнем — і Мары-Анры апынуўся ў Паўночнай Італіі. За пару гадоў да гэтага Напалеон яе далучыў да Францыі, узбагаціўся сам і не забыў аб павышэнні стану сваіх афіцэраў. Гэта было значна больш выгадна за політэхнічную школу.

Але што ж Мары-Анры? А ён, па-першае, спазніўся да дзяльбы італьянскіх багаццяў, хоць і не бедаваў, а па-другое, зноў заняўся гісторыяй мастацтваў — у Італіі. Ён бы з радасцю займаўся толькі ёю і пісаў бы ў асноўным пра яе. Але падаў у адстаўку. Пасяліўся ў Парыжы. Пісаў, чытаў, займаўся самаадукацыяй (так пішацца ў энцыклапедыях). Аднак раптам ні з таго ні з сяго ірвануў у войска зноў, праўда, ужо ў якасці… Добра, крыху пазней — і пра гэта.

Быў нейкі нячысцік, які ўвесь час падштурхоўваў яго да новых і новых авантур. Дакладней — было нават некалькі такіх дэманаў. Першы цалкам узроставы: каханне, зразумела, да прыгажуні-акторкі Мелані Луазон. Такое з кожным можа здарыцца, а ў юнацтве дык проста павінна здарыцца. Другое — пісьменніцкі сверб. Бо пісаў бы сабе спакойна гісторыю мастацтваў, ганарар невялікі — але надзейны, чытач пастаянны, тыраж невялікі, але гарантаваны. Дык не ж, трэба прыдумляць нешта сваё… Трэцяе лепш за ўсё назваць словам «драмаманія» ці — хваравітая цяга да змены месцаў. Увесь час хочацца ў дарогу, на ўсё паглядзець сваімі вачыма, усё паспрабаваць і выпрабаваць. Калі Стэндаль і не прыдумаў слова «турызм» (хоць многія сцвярджаюць, што ён яго і прыдумаў), то распаўсюдзіў яго і даў яму вялікае жыццё менавіта ён: яго «Запіскі турыста» не толькі сталі займальным чытвом, увялі гэтае слова не толькі у французскі, але і ў сусветны ўжытак. Чым турыст адрозніваецца ад вандроўніка? Tour — гэта падарожжа, з якога ты абавязкова вернешся (ну, прынамсі, плануеш вярнуцца). У «туры» па Расіі ў Мары-Анры Бейля такой гарантыі не было. Зрэшты, і рызыкі яго былі значна ніжэйшымі, чым у французскіх драгунаў або гусараў. Ён быў інтэндантам. Так што ў яго біяграфіях вы сустрэнеце фармулёўкі «быў сведкам Барадзінскай бітвы», сведкам таго, сведкам гэтага. Увогуле — не ўдзельнічаў. Нячысцік нячысцікам, але авантурны характар задумы свайго куміра Мары-Анры ўсё ж разумеў — і падстрахаваўся.

Вайну 1812 года Стэндаль правёў амаль як П'ер Бязухаў, толькі з французскага боку і без адкрыццяў з Платонам Каратаевым. Хронікі знаходжання Стэндаля ў імперскай Расіі захаваліся практычна выпадкова. Дзённікі пісьменніка часткова патанулі ў час пераправы ў беларускай Беразіне, часткова маглі згарэць, згубіцца, немалую частку яго запісаў панесла плынню ваеннай ракі ў нікуды. І тое, што вы зараз прачытаеце, таксама было б страчана — калі б не граф Аляксей Аракчэеў. Так-так, той самы.

Прызначаны ў 1812 годзе старшынёй дэпартамента ваенных спраў у дзяржаўным савеце, а з 14 чэрвеня… Ён сам пісаў: «З гэтай даты уся французская вайна ішла праз мае рукі, усе таемныя загады, данясенні і ўласнаручныя загады імператара». Казацкая разведка перахапіла кур'ера, які вёз імператарскую пошту Напалеона, пад Смаленскам. Былі ў той пошце не толькі імператарскія лісты — з надзейнай аховай многія імкнуліся адпраўляць свае эпісталы. Гэтыя лісты патрапілі не па адрасе: яны сто гадоў праляжалі ў расійскіх імператарскіх архівах, пасля чаго апынуліся ў Францыі — дзе былі неадкладна апублікаваныя.



Мемарыяльная шыльда на доме ў Вільні, дзе спыняўся СТЭНДАЛЬ у 1812 годзе


СТЭНДАЛЬ.
Партрэт Сільвестро ВАЛЕРЫ

Такім чынам, малады інтэндант Мары-Анры Бейль перасякае Нёман, ідзе праз Смаленск ды іншыя гарады. Асаблівага энтузіязму ўбачанае ў яго не выклікае: «Я не вельмі шчаслівы, што трапіў сюды. Як мяняецца чалавек! Гэтая прага ўсё бачыць, якая мучыла мяне раней, зусім знікла; з таго часу, як я пабачыў Мілан і Італію, усё, што я бачу, адштурхоўвае мяне сваёй грубасцю <…> іншы раз я гатовы расплакацца. У гэтым акіяне варварства мая душа не знаходзіць водгуку ні ў чым! Усё груба, брудна, смуродна і ў фізічным і ў маральным стаўленні…» — піша ён 24 жніўня 1812 года. Але трапіўшы ў Маскву, ён мяняе і тон, і стыль: «Гэты горад да гэтага часу не быў знаёмы Еўропе. Тым часам у ім было ад шасцісот да васьмісот палацаў, прыгажосць якіх пераўзыходзіць усё, што ведае Парыж. Усё было разлічана на жыццё ў найвялікшай пышноце. Бліскучае і элегантнае аздабленне дамоў, свежыя фарбы, самая лепшая ангельская мэбля, якая ўпрыгожвае пакоі, люстэркі, цудоўныя ложкі, канапы разнастайных формаў. Няма пакояў, у якіх нельга было б размясціцца чатырма ці пяццю разнастайнымі спосабамі, з якіх кожны даваў насельніку поўную зручнасць і чароўную выгоду, злучаную тут з дасканалай вытанчанасцю». Хай прабачаць мне аматары прыгожага пісьменства, якія з трапятаннем ставяцца да літаратурных персон такога маштабу, за наступнае параўнанне, якое прыйшло мне ў галаву. Вельмі ўжо нагадваюць мне гэтыя апісанні адну кнігу, якую вы, магчыма, ведаеце. Не, не нейкую сур'ёзную, вы яе ведаеце з дзяцінства. З самага ранняга. Нават не кнігу, а аповед. Ён называецца «Бобік у гасцях у Барбоса». «Так, — кажа Барбос, — я жыву добра. Што хачу, тое і раблю: хачу — грабеньчыкам прычэсваюся, хачу — на тэлевізары гуляю, ем і п'ю, што хачу, ці на ложку валяюся. З акупантамі ды паляўнічымі на чужое так часта здараецца. Валяцца на ложках і канапах чатырма ці пяццю спосабамі з поўнай выгодай яму давялося ў палацы Растапчына. Маскоўскага кіраўніка горада. Акрамя мэблі, Стэндаль ацаніў бібліятэку графа, у тым ліку яго пазнакі на кніжных палях. Такую бібліятэку сустрэнеш не ў кожным парыжскім арыстакратычным доме. А па Маскве іх былі дзясяткі. Драўляныя асабнякі былі сапраўднымі шэдэўрамі рускай архітэктуры. Ведаеце, што было далей.

«Выходзячы з дома, мы заўважылі, што акрамя пажару ў Кітай-Горадзе, які доўжыўся ўжо некалькі гадзін, агонь успыхнуў і паблізу ад нас. Мы накіраваліся туды. Полымя было вельмі моцнае. У мяне разбалеліся зубы ў гэтай экскурсіі». «Мы ясна бачым велізарную піраміду, якую ўтварылі вывезеныя з Масквы мэбля і фартэпіяны (яны маглі даставіць нам гэтулькі задавальнення, калі б не гэтая манія падпалаў). Гэты Растапчын ці нягоднік, ці Рымлянін. Цікава было б ведаць, як будуць глядзець на яго ўчынкі. Сёння на адным з палацаў Растапчына знайшлі афішу; у ёй гаспадар запэўнівае, што ў гэтым доме рухомасці на мільён і інш., але што спаліць яго, каб ён не дастаўся ў рукі разбойнікам. Аднак выдатны палац яго ў Маскве да гэтага часу не спалены».

А цяпер падумаеш — і праўда. Навошта папалілі? Напалеон і так сышоў з горада. Зноў Стэндаль: «Пажар хутка набліжаўся да дома, пакінутага намі. Нашыя экіпажы прастаялі на бульвары пяць ці шэсць гадзін. Стаміўшыся ад бяздзейнасці, я пайшоў бліжэй да агня і гадзіну ці дзве правёў у Жуанвіля. Я любаваўся пяшчотай, якая лунала ад убрання яго дома. Мы выпілі там з Біле і Бюшонам тры бутэлькі віна, што і вярнула нас да жыцця».

Не крыўдуйце на пісьменніка. На войнах п'юць шмат. А расійская рэчаіснасць непакоіць часам не толькі вочы і зубы, але і жываты.

Стэндаль цудоўна разумеў, чым займаюцца ў Маскве французы — і ён сам у тым ліку. Паказальна, што перакладчык лістоў выкарыстоўвае старадаўні рускі дзеяслоў «заграбить» — гэта значыць прысвоіць шляхам рабавання, дзеяслоў, які найглыбей адлюстроўвае французскі арыгінал. Не магу ўтрымацца ад параўнання: «Бобік сеў за стол. Барбос адкрыў буфет, бачыць — там страва з кісялём стаіць, а на верхняй паліцы — вялікі пірог. Ён узяў страву з кісялём, паставіў на падлогу, а сам палез на верхнюю паліцу па пірог. Узяў яго, пачаў уніз спускацца і патрапіў лапай у кісель. Паслізнуўшыся, ён пляснуўся на талерку, і ўвесь кісель у яго размазаўся па спіне. — Бобік, ідзі хутчэй кісель есці! — закрычаў Барбос. Бобік прыбег: — Дзе кісель? — Ды вось у мяне на спіне. Аблізвай»…

Неўзабаве стала зразумела, што Маскву і Расію давядзецца спешна пакідаць. Інтэндант Бейль атрымае тры мільёны (зразумела, фальшывых) расійскіх рублёў на закуп правіянту для адыходзячай арміі. Як вы ведаеце з гісторыі, гэтая дзейнасць аказалася не занадта паспяховай як у яго, так і ў іншых інтэндантаў. Да таго ж меліся быць зусім не інтэнданцкія прыгоды. Стэндаль: «24 кастрычніка, калі мы распальвалі вогнішчы, нас раптам атачылі хмары людзей і пачалі нас расстрэльваць. Поўнае замяшанне, праклёны параненых; з вялікай цяжкасцю нам удалося прымусіць іх узяцца за стрэльбы. Мы адбіваемся ад непрыяцеля, але разумеем, што нас яшчэ чакаюць немалыя прыгоды. Сярод нашых параненых быў адважны генерал па прозвішчы Мур'е, які патлумачыў нам нашае становішча. Паколькі мы былі атакаваныя ў той вечар велізарнай ардой пешых людзей, то перад намі, відаць, было чатыры ці пяць тысяч рускіх, часткова рэгулярных войскаў, часткова паўсталых сялян. Нас акружылі, і адступаць было таксама небяспечна, як і ісці наперад. Мы вырашылі правесці ноч, не кладучыся, і на наступны дзень, досвіткам, пабудавацца ў батальённае карэ, змясціць параненых у сярэдзіну і зрабіць спробу прарвацца скрозь рускіх; калі б нас пачалі адціскаць, мы б кінулі нашыя павозкі, зноў пастроіліся б у маленькае батальённае карэ і хутчэй бы далі перабіць сябе да адзінага, чым здаліся б сялянам, якія ўсё роўна, не спяшаючыся, закалолі б нас нажамі або забілі б іншым якім-небудзь прыемным спосабам. Прыняўшы гэтае адважнае рашэнне, мы пачалі рыхтавацца. Кожны складваў у вузел найменш неабходныя рэчы, якія збіраўся кінуць пры першым жа нападзе, каб аблегчыць павозку… На наступны дзень, які павінен быў стаць для нас такім значным, мы ўсе выступілі пешшу, крочачы каля нашых калясак, узброеныя з ног да галавы, пісталетамі. Стаяў такі туман, што за чатыры крокі нічога не было відаць…». «Тры ці чатыры разы на дзень я адчуваў <…> крайнюю асалоду. Трэба прызнаць, што асалоды гэтыя не адрозніваліся вытанчанасцю. Адно з самых вострых было, калі аднойчы ўвечар я знайшоў некалькі бульбін і з'еў іх без солі з зацвілым салдацкім хлебам. Цяпер вам зразумелы наш адчайны стан. Ён працягваўся 18 дзён: я выехаў з Масквы 16 кастрычніка і дабраўся да Смаленска 2 лістапада. Граф Дзюма загадаў мне адправіцца з абозам з 1500 параненых, якія ахоўваюцца атрадам у 200 ці 300 салдат. Уявіце сабе мноства маленькіх вазоў, лаянку, пастаянныя сваркі; усе гэтыя вазы наязджаюць адзін на адзін, валяцца ў невылазны бруд. Кожны дзень мы абавязкова праводзілі дзве ці тры гадзіны ў бруднай канаве ў поўнай бездапаможнасці. Вось калі я праклінаў сваю дурную думку паехаць у Расію. Увечары, пасля таго, як мы ішлі пешшу цэлы дзень і адолелі пры гэтым тры ці чатыры мілі, мы станавіліся на біваук і ненадоўга засыналі, дрыжучы ад холаду».

Гэтыя радкі распавядаюць нам дзіўную гісторыюператварэння чалавека, занятага гісторыяй мастацтваў і самім сабой, у аднаго з найлепшых пісьменнікаў ва ўсёй вялікай французскай літаратуры. Адразу некалькі артыкулаў пра Стэндаля будуюцца па такім прынцыпе: спачатку цытаты з яго лістоў аб рускім паходзе, а затым — цытата з Льва Талстога. Ведаеце што… А я не буду выбівацца з… назавем гэта традыцыяй. «Я абавязаны яму тым, што зразумеў вайну. Ва ўсім тым, што я ведаю пра вайну, мой першы настаўнік — Стэндаль…»

Зразумела, прыведзеных вышэй радкоў з лістоў Стэндаля Талстой не чытаў, як не чыталі іх і тыя, каму яны былі адпраўленыя — яны будуць апублікаваны, калі не будзе ў жывых і Талстога, і ўжо тым больш адрасатаў Мары-Анры Бейля. Але наперадзе — «Чырвонае і чорнае», наперадзе «Пармскі прыстанак» і многае іншае, што вам, далібог, варта прачытаць! І ёсць таму важная прычына. Раптам сярод вас… новы Талстой! Бярыце Стэндаля, а потым і самі паспрабуйце што-небудзь пісаць. А раптам?

## Прэмія ПЭН-Пінтэра

Шатландска-суданская пісьменніца Лейла Абулéла атрымала прэмію ПЭН-Пінтэра 2025 года за раманы пра мусульманскіх жанчын і вопыт міграцыі — за свае «разнастайныя і праніклівыя погляды на тэмы, якія маюць жыццёва важнае значэнне для нашага сучаснага свету: вера, міграцыя і перамяшчэнне».


Лейла АБУЛЕЛА

Журы прэміі — прэзідэнт англійскага ПЭН-клуба Рут Бортвік, паэтка і раманістка Мона Аршы і самалійска-брытанская пісьменніца Надзіфа Махамед — назвала творчасць сёлетняй лаўрэаткі «бальзамам, прытулкам і натхненнем». Паводле слоў Моны Аршы, за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў Лейла Абулела зрабіла значны ўнёсак у літаратуру, распавядаючы гісторыю ўнутранага жыцця жанчын, якіх часта ігнаруюць або замоўчваюць. «Лейла Абулела — важны голас у літаратуры, і на працягу ўсёй сваёй кар'еры, якая ахоплівае больш за тры дзесяцігоддзі, яе творчасць займала ўнікальнае месца ў даследаванні ўнутранага жыцця мігрантаў, якія вырашылі пасяліцца ў Вялікабрытаніі. У раманах, апавяданнях і радыёп'есах яна спалучала глабальнае і лакальнае, палітычнае і духоўнае, настальгію па старым доме з адначасовай цікаўнасцю і жаданнем выжыць у новым. Творчасць Абулелы адзначана жаданнем зрабіць жыццё і рашэнні мусульманскіх жанчын цэнтральнымі ў сваёй творчасці і даследаваць іх радасці і выпрабаванні з годнасцю», — дадала Надзіфа Махамед.

«Гэта было для мяне поўнай і абсалютнай нечаканасцю. Я дзякую PEN England і сябрам журы за тое, што яны прызналі маю працу годнай гэтай узнагароды. Для мяне гонар атрымаць узнагароду, заснаваную на памяці Гаральда Пінтэра, выдатнага пісьменніка, які працягвае выклікаць такую адданасць і нязменную павагу. Для такога чалавека, як я, мусульманскай імігранткі з Судана, якая піша з рэлігійнага пункту гледжання, даследуе межы свецкай талерантнасці, гэта прызнанне сапраўды значнае. Яно пашырае і паглыбляе сэнс свабоды слова і тых, чые гісторыі былі пачутыя», — адзначыла Лейла Абулела.

Афіцыйная цырымонія ўзнагароджання адбудзецца 10 кастрычніка ў Брытанскай бібліятэцы. Абулела таксама абярэ лаўрэата прэміі «Пісьменнік за мужнасць», якая ўручаецца аўтарам, якія актыўна абараняюць свабоду слова, часта рызыкуючы ўласнай бяспекай і свабодай.

Лейла Абулела нарадзілася ў Каіры (Егіпет) і вырасла ў Хартуме, сталіцы Судана, але з 1990 года жыве ў Абердзіне (Шатландыя). Яна аўтарка шасці раманаў, у тым ліку «Перакладчыца», «Мінарэт» і «Птушыны заклік», якія даследуюць вопыт мусульманскіх жанчын у Брытаніі; зборніка апавяданняў «Каляровыя агні», які распавядае гісторыі маладых суданскіх жанчын, што пракладаюць свой уласны шлях у пошуках сэнсу і прыналежнасці; і анталогіі «Новыя дочкі Афрыкі», у якой прадстаўлены творы 200 пісьменніц афрыканскага паходжання. У 2000 годзе Лейла Абулела стала першай афрыканскай пісьменніцай, якая атрымала прэмію Кейна за афрыканскую літаратуру, якая прысуджаецца за лепшае арыгінальнае англамоўнае апавяданне афрыканскага аўтара.

## Новая паэтычная прэмія

Ёй маркуюць узнагароджваць аўтараў ці аўтарак зборнікаў, перакладзеных на англійскую мову, а заяўкі пачалі збірацца ў ліпені.

Двухгадовую прэмію «Паэзія ў перакладзе» заснавалі выдавецтвы *Fitzcarraldo Editions, Giramondo Publishing* і *New Directions*, узнагарода будзе падзелена паміж паэтам-паэткай і перакладчыкамі. Зборнікі вершаў будуць апублікаваны выдавецтвамі ў Вялікабрытаніі, Ірландыі, Аўстраліі, Новай Зеландыі і Паўночнай Амерыцы.



Рэйчал Ален, галоўны рэдактар «Fitzcarraldo Poetry Projects», адзначыла: «Мы хацелі адкрыць свае дзверы для новай паэзіі ў перакладзе, даць прастору і доступ да паэзіі, пра якую мы маглі не ведаць».

## Крымінальная справа на Сэргія ЖАДАНА

У Расіі распачата крымінальная справа супраць украінскага пісьменніка, валанцёра, фронтмэна гурта «Жадан і сабакі» ды на сёння вайскоўца Сэргія Жадана.

С. Жадана расійская следчая сістэма назвала «ідэалагічным натхняльнікам незаконнага ўзброенага фармавання ва Украіне». Дадаюцца скрыншоты яго сустрэч у сацыяльных сетках, а таксама «абвінавачванні» ў «фінансаванні тэрарызму, публічных дзеяннях, якія дыскрэдытуюць узброеныя сілы Расійскай Федэрацыі, фінансаванні падрыўной дзейнасці». Паведамляецца, што С. Жадан нібыта знаходзіцца ў вышуку ў Расійскай Федэрацыі.

Сам жа пісьменнік напісаў у адказ: «Я люблю сваю працу».


Сэргій ЖАДАН

У пачатку чэрвеня 2024 года Сэргій Жадан афіцыйна пацвердзіў, што ўступіў у шэрагі Нацыянальнай гвардыі. Акрамя службы, пісьменнік працягвае валанцёрскую дзейнасць: збірае сродкі на набыццё тэхнікі для вайскоўцаў, выступае на дабрачынных канцэртах.

А між тым Фонд Сэргія Жадана арганізаваў новы кніжны фестываль «Літаратурны кірмаш», які адбудзецца ў Харкаве з 29 па 31 жніўня.

У цэнтры ўвагі мерапрыемства — «ідэнтычнасць, самапазнанне і дыялог часоў». С. Жадан растлумачыў, чаму быў створаны новы фестываль, нягледзячы на тое, што разам з Харкаўскім літмузеем ён раней стварыў «Пяты Харкаў». «Культура ў горадзе ў значнай ступені пастаўлена на паўзу, а попыт на культурныя мерапрыемствы застаецца высокім. Вялікая колькасць людзей, якія любяць чытаць, якія любяць літаратуру, працягваюць жыць і працаваць у горадзе. Нядаўні поспех фестывалю «Meridian Kharkiv» з поўнымі заламі і чэргамі па аўтографы — гэтаму пацвярджэнне. Вось чаму мы вырашылі падарыць жыхарам Харкава такое свята: арганізаваць сустрэчу з пісьменнікамі і выдаўцамі, каб яшчэ раз нагадаць ім, што ў краіне, нягледзячы на вайну, нягледзячы на абстрэлы і небяспеку, працягвае стварацца літаратура, выдаюцца кнігі. На маю думку, гэта сведчыць пра сілу і стойкасць грамадства», — распавёў С. Жадан.

У фестывалі прымуць удзел Мар'яна Саўка, Андрэй Куркоў, Андрэй Какацюха, Аляксандр Ірванец, Юлія Паеўская (Тайра), Аляксандр Красавіцкі, Руслан Гаравы, Вахтанг Кіпіяні, Юліта Ран, Валерыя Субоціна, Аляксандр Саўчук, Аляксандра Паўлава і іншыя ўкраінскія аўтары. Сярод замежных гасцей Харкаў пры падтрымцы Польскага Інстытута ў Кіеве наведае польскі рэпарцёр Войцех Тохман. У кірмашы возьмуць удзел харкаўскія выдавецтвы «Фоліо», «Віват», «Жорж», «Ранок», «Фабула», выдавецтва Аляксандра Саўчука, КСД, АССА, кніжная фабрыка «Юнісофт» і запрошаныя госці: «Мерыдыян Чэрнавіц», «А-БА-БА-ГА-ЛА-МА-ГА», «Наш фармат», «Выдавецтва Старога Лева».

Назву фестывалю даў часопіс «Літаратурны кірмаш», які выдаваўся ў 1928—1930 гадах у Харкаве. Там адбыліся першыя публікацыі знакавых твораў Міколы Хвылёвага, Майка Ёхансэна, Міколы Куліша, Астапа Вішні. Часопіс аб'яднаў 74 аўтараў з самых розных літаратурных груп і рухаў у 12 кнігах.

На фестывалі адбудзецца мерапрыемства ў памяць пра Ніку Кожушко, маладую харкаўскую паэтку і мастачку, якая загінула ў выніку расійскіх абстрэлаў. 30 жніўня спаўняецца год, як няма Нікі.

## Завочны прысуд Барысу АКУНІНУ

Вядомы расійскі пісьменнік Барыс Акунін (які быў абвешчаны «замежным агентам» у Расійскай Федэрацыі і ўключаны ў спіс тэрарыстаў і экстрэмістаў) у сярэдзіне ліпеня быў завочна асуджаны расійскім судом да 18 гадоў пазбаўлення волі па абвінавачванні ў апраўданні тэрарызму і парушэнні закона аб «замежных агентах».

Пракурор таксама запатрабаваў штраф у памеры 400 тысяч расійскіх рублёў і забарону Акуніну адміністраваць вэб-сайты на працягу пяці гадоў пасля вызвалення. Акуніну інкрымінуюць публікацыі ў Telegram без пазнакі «замежны агент» — следства налічыла не менш за 33 такія матэрыялы.

Падставай для абвінавачвання ў апраўданні тэрарызму стала тэлефонная размова з пранкерамі — за тое, што называліся імёны... прэзідэнта Украіны Уладзіміра Зяленскага і былога міністра культуры Аляксандра Ткачэнкі. У размове Акунін заявіў, што ў яго «сэрца абліваецца крывёй» з-за нападу на Крымскі мост, але «некаторыя рэчы даходзяць да дурных людзей больш выразна і непасрэдна». Пазней Акунін растлумачыў сваю пазіцыю ў асобным пасце: «Я доўга быў эвалюцыяністам, але цяпер я за рэвалюцыю, бо няма іншага спосабу пазбавіцца ад дыктатуры. Выбараў няма і не будзе, рэжым забівае сваіх апанентаў або кідае іх гніць у турмы. Так, рэвалюцыя — гэта выбух. Але ў гісторыі ёсць такія завалы, якія нічога, акрамя выбуху, не можа прачысціць».

Барыс Акунін ужо некалькі гадоў знаходзіцца за мяжой. У сваім Telegram-канале ён заявіў, што «не ўдзельнічае ні ў якой тарабаршчыне» і што яго адвакат не прадстаўляе яго інтарэсы ў судзе.

## Дмітрый БЫКАЎ — у вышуку

Яшчэ ў ліпені МУС РФ аб'явіла ў вышук і Дзмітрыя Быкава. На дадзены момант Следчы камітэт РФ расследуе дзве крымінальныя справы ў дачыненні да пісьменніка, раней прызнанага Мінюстам РФ «замежным агентам». Паводле дадзеных, Д. Быкаў «расшукваецца» па артыкуле Крымінальнага кодэкса РФ. Пра які менавіта артыкул ідзе гаворка, невядома. На дадзены момант Следчы камітэт РФ расследуе дзве крымінальныя справы ў дачыненні да пісьменніка: аб «распаўсюджванні загадзя ілжывай інфармацыі аб расійскай арміі», а таксама «аб ухіленні ад выканання абавязкаў замежнага агента».

## Дасье Піліпа ОРЛІКА

Украінскія гісторыкі знайшлі ўнікальныя і раней невядомыя гістарычныя дакументы: першае дасье Піліпа Орліка, лісты ўкраінскага гетмана (народжанага ў беларускай вёсцы Касута цяперашняга Вілейскага раёна) і яго сям'і, а таксама шведскіх каралёў. Знойдзены таксама раней невядомы ліст Піліпа Орліка да султана Махмуда I з заклікам да вызвалення Украіны ад Расіі і абвяшчэння яе незалежнай дзяржавай. Прынцыпова важным набыткам з'яўляецца найстарэйшы і раней невядомы казацкі дакумент на ўкраінскай мове 1582 года. «Даследуючы раней невядомыя старонкі нашай слаўнай гісторыі, навукоўцы "Рэзідэнцыі Орлік" аднаўляюць сапраўдную ролю нашай дзяржавы ў лёсавызначальных гістарычных працэсах. Аб гэтым павінны чуць і ведаць украінцы, свет і нашыя міжнародныя партнёры, каб зразумець сапраўдны ўклад нашай дзяржавы ў агульнаеўрапейскую гісторыю. Бо Украіна была вырашальным фактарам многіх перамог у абароне Еўропы», — адзначыў міністр замежных спраў Украіны Андрэй Сыбіга.



Украінскія навукоўцы апрацавалі 2500 архіўных спраў з гістарычных архіваў і бібліятэк Летувы, 600 архіўных старонак на шасці мовах з Дзяржаўнага архіва Швецыі, больш за 2200 дакументаў з архіваў Турцыі і Балгарыі.

## Абарона ад штучнага інтэлекту

Данія плануе ўвесці першыя ў Еўропе правілы абароны грамадзян ад дыпфэйкаў штучнага інтэлекту і даць ім аўтарскія правы на ўласнае цела, голас і рысы твару. «The Guardian» паведаміла, што адпаведныя змены будуць унесены ў закон аб аўтарскім праве. Такім чынам, людзі змогуць патрабаваць выдалення кантэнту, створанага штучным інтэлектам, які выкарыстоўвае іх падабенства без згоды, і патрабаваць кампенсацыі ў судзе. Урад Даніі сцвярджае, што зменены законы пасылаюць «зразумелы сігнал» кампаніям, якія займаюцца штучным інтэлектам: «Калі платформы не будуць выконваць правілы, мы гатовыя прыняць дадатковыя меры», — адзначыў міністр культуры Даніі Якаб Энгель-Шміт. У выпадку парушэнняў кампаніі могуць быць аштрафаваныя, а іх справы будуць разгледжаны Еўрапейскай камісіяй. Энгель-Шміт удакладніў, што абноўленыя правілы не будуць распаўсюджвацца на пародыю або сатыру.